ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№40 (2546)

2 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

АД ЯЕ ЯКАСЦІ ЗАЛЕЖЫЦЬ НАША ЗДАРОЎЕ І НАВАТ ЖЫЦЦЁ

## ЦІ МОЖНА ПІЦЬ ВАДУ З КРАНА?

Са школьных урокаў біялогіі вядома, што чалавечы арганізм прыкладна на 60 працэнтаў складаецца з вады. І ад таго, якой якасці будзе гэтая вада, у многім залежыць наша здароўе і нават жыццё. Як заўважыў вядомы анколаг, калі б мы спажывалі па-сапраўднаму чыстую ваду, палавіны хвароб, ад якіх пакутуе чалавецтва, можна было б пазбегнуць. Вада ў прыродзе і чалавечым арганізме выконвае функцыю асновы раствораў, даносячы да кожнай клеткі як пажыўныя рэчывы, так і яды, у залежнасці ад таго, што ў ёй утрымліваецца.

Мінскі водаправод, адзін са старэйшых у Расіі, быў пушчаны ў работу ў 1874 годзе. Да пачатку яго эксплуатацыі для абслугоўвання 16 дамоў было ўкладзена паўтара кіламетра чыгунных водаправодных труб... У 1932 годзе быў уведзены ў эксплуатацыю першы артэзіянскі водазабор "Навінкі", што і з'явілася пачаткам сілкавання Мінска найчысцейшай падземнай вадой. Доўгія гады падземнае водазабеспячэнне з'яўлялася асноўнай крыніцай забеспячэння горада вадой, давала магчымасць з гонарам сцвярджаць з высокіх трыбун і газетных старонак, што "ў Мінску — самая смачная і чыстая вада ў СССР". І што самае цікавае, так яно і было. Да гэтага часу больш за дзве трэція вады пастаўляецца ў горад з падземных крыніц глыбінёй залягання ад 40—50 да 300 метраў.

Вада — прыродны рэсурс, які аднаўляецца, і пры рацыянальным выкарыстанні ваданосны гарызонт без пагаршэння якасці можа даць да 20 000 кубічных метраў вады ў суткі на працягу ўсяго разліковага тэрміну эксплуатацыі. Кантроль за станам ваданосных шчылін ажыццяўляе гідралагічная служба, якой устаноўлены гранічна дапушчальны аб'ём здабычы для кожнага водазабора. Тым не менш, гадоў пятнаццаць назад, у перыяд бурнага эканамічнага развіцця горада, падземнай вады стала не хапаць. Спачатку меркавалася, што вадой з Вілейскай воднай сістэмы будуць карыстацца мінскія заводы, задавальняць тэхнічныя патрэбы якіх артэзіянскай вадой здавалася недаравальным марнатраўствам. Аднак ці то аб першапачатковай задуме забыліся, ці то нешта не атрымалася, але ў выніку паверхневая рачная вада пайшла ў Фрунзенскі, Маскоўскі і Кастрычніцкі раёны горада, а буйныя прамысловыя прад-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Помнік архітэктуры XIX стагоддзя — дзеючая Ільінская царква ў Бешанковічах Віцебскай вобласці, якія адзначаюць сёлета сваё 550-годдзе.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

КУМІРЫ МІНУЛАГА

## НЕВЯДОМЫ ФЕЛІКС

**Дзяржынскі Фелікс Эдмундавіч (1877—1926), сав. парт., дзярж. дзеяч, удзельнік польск. і рас. рэв. руху. Чл. КПСС з 1895. Адзін з кіраўнікоў Рэв-цыі 1905-07 (Варшава). У 1907 абраны члн. ЦК РСДРП. 10 год — у турмах і ссылцы. У Кастр. рэв-цыю чл. парт. Ваен.-рэв. цэнтра і Петрагр. ВРК. З 1917 старш. УНК (з 1922 ГПУ, АГПУ) і нарком унутр. спраў у 1919—1923, адначасова з 1921 нарком шляхоў зносін, з 1924 старш. ВСНГ СССР; з 1921 старш. камісіі па паляпшэнню жыцця дзяцей пры УЦВК. Чл. партыі з 1917, у 1921 чл. Аргбюро, з 1924 канд. у чл. Палітбюро ЦК. Чл. УЦВК і ЦВК СССР.** (Советский энциклопедический словарь. М., 1985).

Дзяржынскі нарадзіўся 11 верасня 1877 года ў маёнтку Дзяржынава Віленскай губерні (Польшча) у багатай дваранскай сям'і. Маці — полька, бацька — яўрэй. Гісторыя стварэння гэтай сям'і даволі незвычайная: дваццаціпяцігадовы хатні настаўнік Эдмунд Іосіфавіч, які ўзяўся абучаць дакладным навукам дачок прафесара Янушэўскага, спакусіў чатырнаццацігадовую Алену. Іх хутка пажанілі і пад маркай "Аленінай вучобы ў адным з лепшых еўрапейскіх каледжаў" адправілі ў Таганрог, далей ад дому. Эдмунд уладкаваўся ў мясцовую гімназію (адным з яго вучняў быў Антон Чэхаў). Пайшлі дзеці... І сям'я неўзабаве вярнулася на радзіму, дзе і нарадзіўся Фелікс.

Хлопчыку было пяць гадоў, калі ад сухотаў памёр бацька, а 32-гадовая маці засталася з васьмю дзецьмі. Фелікс рос разумным хлопчыкам: з шасці гадоў чытаў па-польску, з сямі — па-руску і па-яўрэйску. Але вучыўся сярэдне. У першым класе застаўся на другі год. Вучань той жа гімназіі — будучы кіраўнік урада Польшчы Юзэф Пілсудскі — адзначаў, што "гімназіст Дзяржынскі — шэрасць, пасрэднасць, без якіх-небудзь яркіх здольнасцей". Добра вучыўся Фелікс толькі па аднаму прадмету — Закону Божаму, нават марыў аб сане свяшчэнніка, але хутка расчараваўся ў рэлігіі.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

## КАНСТАНЦІН КАЛІНОЎСКІ І ЯГО НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

З казкай, у якую мы з дзяцінства верылі шчыра, усёй душою, развітвацца надта цяжка, нават пакутліва, нават балюча. Але што мы рабіць павінны, калі неспадзявана даведаемся, што гэта была ўсяго толькі небыліца, якая цешыла нас, недзе і падтрымлівала, умацоўвала наш дух? Тым больш, калі многія пакаленні ўпрыгожвалі яе новымі казкамі, мастацкімі творамі, вершамі, песнямі.

А ці абавязаны мы песціць казку, калі яна пярэчыць гістарычным фактам? Хай чытач вырашае сам. У любым выпадку праўда заслугоўвае таго, каб яе ведалі. Якой бы яна ні была. Толькі перад безнадзейна хворымі людзьмі можна нешта ўтойваць, недагаворваць ім. А калі хтосьці праўду ад грамадства замыкае ў спецфонды, то ён гэтым самым лічыць грамадства хворым і даказвае сваю непавагу да яго. Думаецца, што мы ўжо сёння маем права ведаць не толькі пра тое, што адбывалася ў нас пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, але і пра падзеі больш далёкага мінулага.

Калі ў 1990 годзе ў артыкуле "Маякі і міражы" (ЛіМ, 22 лютага) я паспрабаваў вельмі асцярожна паглядзець з **пазіцый беларуса** на рэальныя падзеі студзеньскага паўстання 1863 года, то на мяне пасыпаліся абвінавачанні з розных бакоў. Найбольш непрымірыма выкрываў мяне Міхась Біч — спачатку ў газеце "Літаратура і мастацтва" (1991, 22 лютага), затым у "Настаўніцкай газеце" (ажно ў трох нумарах — 17, 24, 27 ліпеня 1991 года) у артыкуле з загалоўкам: "У крывым люстэрку. К. Каліноўскі: праўда і вымыслы". Само сабой разумеецца, што "праўду" падаваў сам Біч, а "вымыслы" ішлі толькі ад Казберука, які да таго ж яшчэ падставіў даверліваму чытачу крывое люстэрка. Потым М. Біч паўтарыў свае аргументы і вывады ў "Беларускім гістарычным часопісе" (1993, № 3, артыкул "Нацыянальнае і аграрнае пытанні ў час паўстання 1863—1864 гг.").

Паспрабую яшчэ раз паразважаць пра тыя падзеі з улікам фактаў, пра якія пішуць мае апаненты, а таксама тагачаснай ідэалагічнай і ўзброенай барацьбы, ранейшай і пазнейшай гісторыі народа.

Пачатак 60-х гадоў XIX стагоддзя — перыяд своеасаблівы ў нашай гісторыі. Адмена прыгоннага права паклала канец шматвяковаму ўзаконенаму рабству, хоць яшчэ зусім не вырашыла найскладанейшых сацыяльных супярэчнасцей грамадскага жыцця. Гэтыя супярэчнасці, няўхільна абвастраючыся, у недалёкай гістарычнай перспектыве прывялі да рэвалюцыйных падзей 1905 і 1917 гадоў.

22 студзеня 1863 года Маніфест польскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта абвясціў аб пачатку паўстання супраць рускага заняволення. Для палякаў гэта была вайна за свабоду, за права самім вырашаць свой лёс. А для беларусаў? Што яна павінна была прынесці нашаму народу? Кіраўнікі паўстання зыходзілі з таго, што беларусы — гэта тыя ж самыя палякі, бо яны жывуць на зямлі, якая ўваходзіла калісьці ў склад Рэчыпаспалітай. Майская канстытуцыя 1791 года канчаткова і беспаваротна замацавала унітарны характар усёй дзяржавы, ператварыўшы ўсю Рэчпаспалітую ў адзіную і непадзельную Польшчу. На польскай зямлі жылі толькі палякі, якога б паходжання яны ні былі.

У студзеньскім паўстанні на першы план вылучалася праблема *нацыянальная*. Барацьба разгарнулася за права польскага народа вярнуць сабе дзяржаўную незалежнасць. Аднак кіраўнікам і ўдзельнікам паўстання ўяўлялася, што Польшча павінна адрадзіцца толькі ў межах 1772 года. Кіраўніцтва паўстання неаднаразова мянялася, але гэтая ідэя заставалася нязменнай і непахіснай для ўсіх кіраўнікоў, пачынаючы першым дыктатарам Л. Мераслаўскім і канчаючы Р. Траўгутам.

(Працяг на 4-й стар.).

## ІЎЕЎСКІЯ ТАТАРЫ

Знамянальную дату — 600-годдзе свайго пасялення на Беларусі — адзначаюць у гэтым годзе беларускія татары. З'явіліся на землях Вялікага Княства Літоўскага яны ў часы Гедыміна, перасяленне ў асноўным адбывалася ўжо пры вялікім князі Вітаўце, які быў у саюзе з Залатой Ардой. Таму іх пасяленне на нашай зямлі ніяк не звязана з татара-мангольскім нашэсцем. Асноўным заняткам татар была воінская служба, за што многія атрымлівалі афіцэрскія чыны, землі і дваранскія тытулы. Па сцвярджэнні гісторыкаў, у XVI стагоддзі ў Вялікім Княстве Літоўскім жыло больш за 200 тысяч татар, але паступова ў выніку асіміляцыі, а таксама эміграцыі ў іншыя краіны іх колькасць намнога зменшылася. Цяпер у Беларусі пражывае 12,5 тысячы татар, у тым ліку ў горадзе Іўе каля тысячы чалавек. Тут ёсць і мячэць, пабудаваная ў 1882 годзе. Іслам, захаваны сярод хрысціянства, садзейнічае ўмацаванню агульнасці. Менавіта з рэлігійнай сферай звязаны шматлікія традыцыі, звычаі тутэйшых татар.

НА ЗДЫМКАХ: іўеўская мячэць;



імам іўеўскай мячэці Ізмаіл ШАБАНОВІЧ, яго дачка, работніца Іўеўскага райвыканкома Хадыжа ШАБАНОВІЧ



і ўнук Ілья; любіць парадак лабарантка іўеўскай раённай бальніцы Х. ШАБАНОВІЧ і ў сваёй гаспадарцы.



Выбраная своечасова цыбуля акуратна развешана для сушкі.

Фота Рамана КАБЯКА.

# ЦІ МОЖНА ПІЦЬ ВАДУ З КРАНА?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

прыемствы па-ранейшаму выкарыстоўваюць для тэхнічных патрэб тую "самую чыстую ў СССР" ваду.

Сёння сутачная патрэба горада ў пітной вадзе ў залежнасці ад пары года вагаецца ад 700 да 850 тысяч кубічных метраў, у гадзіны пікавых забораў — раніцай і вечарам — спажыванне даходзіць да 1 мільёна 200 тысяч кубічных метраў. На тэхнічныя патрэбы штосутачна ў залежнасці ад стану эканомікі горад спажывае яшчэ ад 130 да 160 тысяч кубаметраў. Дарэчы, кантроль за тэхнічнай вадой ажыццяўляюць самі прадпрыемствы, а патрабаванні да яе чысціні залежаць ад таго, хто і для чаго яе выкарыстоўвае. Так, для некаторых вытворчасцей, дзе маюць справу з мікрасхемамі і дакладнымі прыборамі, якасныя паказчыкі тэхнічнай вады могуць быць значна вышэйшымі, чым для пітной.

Якасць пітной вады кантралюецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі ДАСТа 287482 "Вада пітная", дзе асноўныя патрабаванні да яе вызначаны наступным чынам: "Вада павінна быць бяспечнай у бактэрыялагічных адносінах, бясшкоднай па хімічнаму саставу і мець спрыяльныя арганалептычныя ўласцівасці". Цікава, што артэзіянская вада, якая прайшла натуральны цыкл ачысткі, абсалютна адпавядае ДАСТу як па эпідэміялагічных і арганалептычных паказчыках, так і па свайму хімічнаму саставу.

Згодна з ДАСТам, для ажыццяўлення кантролю за мінскай вадой дастаткова ўзяць 200 проб у год. На самай справе праводзіцца каля 6 тысяч даследаванняў на ўсіх этапах яе апрацоўкі і дастаўкі да спажыўца. Якасць сталічнай вады, згодна з тым жа ДАСТам, вызначаецца па 26 параметрах. Адзначым, што на Захадзе колькасць якасных паказчыкаў вады даходзіць да 60—70. Службовыя асобы, з якімі давялося гаварыць на гэтую тэму, у адзін голас сцвярджалі, што праверкі па 26 паказчыках для мінскай вады абсалютна дастаткова і няма сэнсу шукаць у ёй такія рэчывы, як, скажам, малібдэн ці ўран, якіх у беларускай глебе не было ніколі. Аднак, акрамя гэтай зусім слушнай прычыны кантролю па такому невялікаму спектру параметраў, ёсць яшчэ адна: у нас проста няма дакладнай апаратуры, што дазваляе выдзеліць і выявіць некаторыя непажаданыя элементы. На сёння шэрагам праектных інстытутаў вядуцца работы па стварэнню айчынных аналізатараў вады, якія змогуць па некаторых параметрах весці няспынны кантроль.

Тым не менш, пераважная большасць шчылін пастаўляюць чыстую ваду, і ўся працэдура яе апрацоўкі зводзіцца да таго, каб яе здабыць, належным чынам захаваць і давесці да спажыўца. А вось з апошнім могуць узнікнуць праблемы, бо няма ніякай гарантыі, што вада захавае сваю першасную свежасць, прайшоўшы па трубах гарадскога водаправода. Яшчэ адна небяспека можа падсцерагаць яе ў старых дамах з стаякамі, якія прыйшлі ў непрыгоднасць.

Што ж тычыцца паверхневай вады, якая забіраецца з Вілейскай воднай сістэмы, то яна праходзіць усе прадугледжаныя ДАСТам стадыі апрацоўкі. Адзін з метадаў ачысткі, які выкарыстоўваецца ў Мінску для абясшкоджвання паверхневых вод, — азаніраванне, іншымі словамі, апрацоўка вады актыўным кіслародам. У суткі ўстаноўка апрацоўвае прыкладна 200 кубаметраў вады. Несумненная перавага азаніравання перад хларыраваннем заключаецца ў тым, што азон "жыве" ў вадзе 12 мінут, а потым бясследна знікае ў адрозненне ад добра вядомага ўсім нам хлора. Аднак устаноўка не забяспечвае ў неабходнай ступені эпідэміялагічную надзейнасць вады, што паступае ў водаправодную сетку, таму азаніраванне па тэхналогіі дапаўняецца хларыраваннем. Згодна ўсё з тым жа ДАСТам, утрыманне хлору ў вадзе павінна быць не больш 0,8 і не менш 0,2 міліграма на літр. Частка хлору звязваецца ў час праходжэння вады па трубах, частка выпарваецца ў паветра, а частка паступае да спажыўца ў шклянкі і каструлі. Лічыцца, што спажыванне хлору ў мікрадозах нават на працягу ўсяго жыцця не выклікае адмоўнага ўздзеяння на чалавечы арганізм. Аднак наўрад ці хто стане адмаўляць неспрыяльнае ўздзеянне на чалавека рэчываў, што ўтвараюцца ў выніку ўзаемадзеяння раствораных у вадзе рэчываў з актыўным хлорам. А гэта — каля дваццаці злучэнняў, частка з якіх канцэрагенныя, і нават у малых канцэнтрацыях яны аказваюць адмоўнае ўздзеянне на арганізм. Але выйсця няма, і сёння хларыраванне, што з'явілася ў пачатку стагоддзя як адказ на эпідэміі інфекцыйных захворванняў, можна разглядаць толькі як непазбежнае зло. Выкарыстоўваецца яно ва ўсім свеце, за выключэннем тых краін, якім высокі ўзровень тэхнічнага развіцця дазваляе абыходзіцца адным азаніраваннем ці замяняць хлор фторам. Нам гэта, натуральна, пакуль не па кішэні.

Норма сутачнага ўжывання вады ў Мінску ашаламляе — 350 літраў на чалавека (у прамыслова развітой Германіі абыходзяцца 180 літрамі, а агульнасусветная норма вагаецца ў рамках 150—160 літраў на душу насельніцтва). Яшчэ гадоў дзесяць назад Мінскводаканалу даводзіўся план па павелічэнню расходаў вады на аднаго жыхара горада, што разглядалася тады як відавочны паказчык росту народнага дабрабыту. Гэта той самы выпадак, калі нам не варта ганарыцца высокімі паказчыкамі, таму што ва ўсім свеце ўжо даўно прыкметай культуры лічыцца ўменне эканоміць ваду, а не расходаваць яе абы-як. Там, дзе за яе плацяць столькі, колькі яна каштуе на самай справе, яе спажыванне скарачаецца, мяняюцца самі адносіны да яе. Так, сёння ў краінах Балтыі кубаметр вады абыходзіцца насельніцтву ў 20—50 цэнтаў (у залежнасці ад дальнасці водазабору), спажыванне вады ўпала амаль у два разы, і пытанне аб будаўніцтве новых водазабораў не стаіць увогуле.

У Мінску ж неабдуманае спажыванне вады прыводзіць да таго, што артэзіянскай вады, якую ў першую чаргу трэба выкарыстоўваць для пітнога водазабеспячэння, ужо не хапае. Між тым, водаспажыванне можна было б скараціць на трэць, калі б прамысловыя прадпрыемствы горада для забеспячэння тэхналагічных працэсаў выкарыстоўвалі ваду толькі тэхнічнай якасці, г. зн. з паверхневых крыніц. Дарэчы, у санітарных правілах запісана, што выкарыстанне артэзіянскай вады ў тэхнічных мэтах дазваляецца толькі пры адпаведным узгадненні з органамі дзяржсаннагляду. І калі раней вялося будаўніцтва сістэм, па якіх да прамысловых прадпрыемстваў падводзіліся паверхневыя воды, то на сённяшні дзень будаўніцтва і падвядзенне такіх сетак заводам не па кішэні, і часта прадпрыемству намнога զручней і танней плаціць за пітную ваду, якую яно выкарыстоўвае ў тэхнічных мэтах. Але разбазарваць запасы чыстых артэзіянскіх вод, якія ў шэрагу выпадкаў перавышаюць па якасці прывазныя бутэліраваныя, марнатраўства, якое могуць дазволіць сабе толькі бедныя, якія не ведаюць сапраўднага кошту таго, што губляюць...

Дарэчы, аб кошце. Сёння прамысловыя, транспартныя, будаўнічыя і іншыя прадпрыемствы плацяць 9 600 рублёў за адзін кубаметр вады, бюджэтныя арганізацыі — 6 000, насельніцтву ж вада каштуе 936 рублёў (пры тым, што кошт яе складае 2 067 рублёў за метр кубічны. Іншымі словамі, сёння мы аплачваем толькі палову рэальнага кошту вады. Але калі раней розніцу паміж цаной і вартасцю пакрывалі прамысловыя прадпрыемствы і іншыя дзяржаўныя спажыўцы, то сёння яны не ў стане гэта рабіць. Насельніцтва ж, нягледзячы на стабільную з красавіка гэтага года цану, не ў стане аплаціць спажыванне вады, так што, зусім відавочна, што ў бліжэйшы час нас чакае павышэнне цэн на ваду. Шырока разрэкламаванае ўвядзенне лічыльнікаў, відаць па ўсім, таксама вельмі далёкая перспектыва. Кошт аднаго лічыльніка складае прыкладна 20 долараў ЗША, а для дакладнага ўліку расходу вады ў адной кватэры трэба ўстанавіць ад двух да шасці лічыльнікаў. Акрамя таго, раз у пяць гадоў лічыльнікі трэба рамантаваць і праводзіць іх дзяржправерку, што таксама абыдзецца ў кругленькую суму, паколькі ўзнікае неабходнасць стварэння службы кантролю, наладкі, дастаўкі і гэтак далей. Так што сёння прасцей і танней плаціць за празмернае спажыванне вады, чым уводзіць лічыльнікі, якія становяцца выгаднымі толькі тады, калі спажыўцу даводзіцца аплачваць сапраўдны кошт расходуемай вады.

Ці можна піць ваду з крана? На гэтае пытанне кампетэнтныя людзі давалі дыяметральна процілеглыя адказы. Загадчык камунальнага аддзялення Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Дзмітрый Галоцік адказаў, што можна, і дадаў, што сам п'е ўжо многа гадоў. Нягледзячы на тое, што выглядае Дзмітрый Міхайлавіч вельмі нядрэнна, заўважым, што гэта — пытанне складанае, ва ўсякім выпадку, ва ўсім цывілізаваным свеце ўжо даўно ваду, прызначаную для піцця, прадаюць асобна. У прамыслова развітых краінах зусім рэальна давесці ўсю ваду, што ідзе з крана, да высокай якасці пітной вады. Аднак наўрад ці гэта мэтазгодна, бо, па-першае, пры гэтым рэзка вырастае яе кошт, а, па-другое, для піцця і прыгатавання ежы выкарыстоўваецца толькі адзін-два працэнты ад усёй спажываемай вады, астатняе ж ідзе на мыццё посуду, ванны, туалеты... Значна больш перспектыўным бачыцца шлях, па якому сёння ідуць тыя краіны, дзе вада з'яўляецца дэфіцытам. Там дамы забяспечваюцца не адной, а дзвюма водаправоднымі сістэмамі, і тады з аднаго крана цячэ пітная вада, а з другога — прызначаная для гаспадарчых патрэб з менш жорсткімі патрабаваннямі да яе якаснага саставу.

Апошнім часам у нас атрымала шырокае распаўсюджванне прынятая ва ўсім свеце практыка продажу пітной вады, расфасаванай у бутэлькі. Гэта вада добрай якасці, якая ўтрымлівае неабходныя чалавеку мікраэлементы, узятая са шчылін, размешчаных на вельмі вялікай глыбіні і якая прайшла жорсткі кантроль. Для паляпшэння смакавых уласцівасцей яна газіруецца, на кожную партыю выдаецца сертыфікат якасці. Некаторыя сарты бутэліраванай вады праходзяць папярэднюю апрацоўку замарожваннем, існуе нават такая таварная пазіцыя, як "талая вада", якая вызначаецца чысцінёй, палепшанымі смакавымі якасцямі і карысная для арганізма. Асабліва актуальная праблема пітной вады ў бутэльках для тых рэгіёнаў, дзе свая вада пакідае жадаць лепшага. Аб тым, што вялікія грошы можна здабываць нават са звычайнай вады, сведчыць той факт, што Далгінаўскую ваду, якую здабываюць з размешчанай у раёне Навінак шчыліны на глыбіні 300 метраў, сёння закупляюць Польшча і Расія. Дарэчы, ачышчаная, газіраваная і, калі гэта неабходна, мінералізаваная пітная вада ва ўсім свеце каштуе не менш 25 цэнтаў за літр...

Яшчэ адзін шлях вырашэння праблемы — устаноўка ў сябе дома бытавога фільтра па ачыстцы вады. Аднак тут адразу паўстае праблема выбару, бо сёння на нашым рынку прапануецца мноства мадэлей бытавых фільтраў і разабрацца ў тым, што трэба менавіта табе, досыць складана, паколькі вельмі часта дылеры і прадаўцы абяцаюць пакупніку значна больш, чым самі вытворцы.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

## З ВІЛЕНШЧЫНЫ

Хутка праляцела лета — пара адпачынкаў, вандровак, новых уражанняў і сустрэч. У гэтым годзе лета выдалася цёплае і сухое, асабліва ліпень і жнівень. Пасля заканчэння навучальнага года вучні віленскай беларускай школы абавязкова працуюць нейкі час у школе: хто даглядае кветкі, хто дапамагае рамантаваць памяшканне да новага навучальнага года. А пасля адпачываюць. Адны едуць да бабуль у вёску, іншыя застаюцца ў горадзе. Сёлета 46 вучняў нашай школы адпачывалі ў дзіцячых летніках "Зубраня" на Нарачы і "Маяк" пад Радашковічамі, такую магчымасць дало ім Міністэрства адукацыі Беларусі.

# ПАЯДНАЛА НАС «ЯДНАННЕ»



У жніўні, дзякуючы Беларускаму дзіцячаму фонду, яго прэзідэнту Уладзіміру Ліпскаму і Яўгену Лецку, група школьнікаў мела магчымасць адпачываць у летніку "Яднанне".

Упершыню пры пансіянаце мінскага трактарнага завода "Рудня" быў арганізаваны летнік адпачынку дзяцей з іншых краін. Мэта такога летніка ў самой назве "Яднанне": паяднаць, пазнаёміць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову, цікавяцца літаратурай, гісторыяй, культурай, звычаямі беларускага народа. Прыехалі дзеці таленавітыя. З Вільні і Навагрудчыны дзяўчаты прыгожа спявалі, з Гомеля — хораша танцавалі, а вось з-пад Нясвіжа ўразілі не толькі добрым веданнем класічнай беларускай паэзіі і літаратуры, веданнем моў, але і тым, што і самі пішуць вершы, ствараюць музыку і спяваюць бардаўскія песні.

Тры аўтобусы ад дзіцячага фонду накіраваліся на Лагойшчыну, дзе знаходзіцца летнік. Вакол прыгожыя краявіды, вельмі ўразіла прырода, асабліва тых, хто сюды прыехаў упершыню. Лагойскае ўзвышша, гэты куток зямлі, называюць беларускай Швейцарыяй. Тут прыгожа ў любую пару года. Пансіянат "Рудня" размешчаны на беразе возера, а вакол сасновы лес. Праграма летніка была litрознабаковай, насычанай мерапрыемствамі, экскурсіямі, сустрэчамі.

Вельмі запомнілася сустрэча з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам, недалёка ад летніка знаходзіцца вёска Слабада, дзе ён нарадзіўся. Удзельнікі летніка не толькі слухалі Ніла Сымонавіча і задавалі пытанні, але і самі чыталі вершы паэта і свае. А сустрэлі Ніла Сымонавіча песняй "А я лягу-прылягу". У многіх былі слёзы на вачах ад радасці, вельмі цёплай атрымалася сустрэча.

Яшчэ адна сустрэча з вядомым пісьменнікам Уладзімірам Арловым. Усе ўдзельнікі летніка ад "Бацькаўшчыны" атрымалі каштоўны падарунак — кнігу У. Арлова "Адкуль наш род", а ў канцы сустрэчы атрымалі аўтограф аўтара. Каб спатканне было больш цікавым і карысным, аб'явілі конкурс на самае цікавае пытанне, зададзенае пісьменніку, на самае лепшае веданне гісторыі Беларусі. У першым конкурсе было пытанняў вельмі шмат, а самыя цікавыя: "Адкуль у вас пярсцёнак з сундуком?", "Што б вы зрабілі, каб былі прэзідэнтам?", "Што зрабіць, каб Беларусь была квітнеючай?"

А вось у другім конкурсе нават складана было вылучыць лепшага. Пытанні былі даволі складаныя, адказы — змястоўныя.

Запомніліся сустрэчы з паэтам Г. Бураўкіным, пісьменнікам У. Ліпскім, якія прынялі ўдзел у адкрыцці летніка, з народным ўмельцам з Лагойска Сямёнам Саўрыцкім, Міколам Лешчуком, з дзіцячым фальклорным калектывам з Лагойска "Валошкі" і іншымі цікавымі, знакамітымі людзьмі. Ды і ўдзельнікі летніка не толькі слухалі, глядзелі, але і малявалі, рыхтавалі розныя вырабы з прыроднага матэрыялу, ладзілі канцэрты, выставы. Самыя лепшыя малюнкі, самыя цікавыя кампазіцыі, самых таленавітых чытачоў і юных артыстаў ўзнагародзілі падарункамі — кнігамі У. Караткевіча, У. Арлова, Н. Гілевіча. А вечарам распальвалі вогнішча, сядалі вакол і ў вячэрняй цішы чыталі вершы, тут, здаецца, сама прырода дапамагала, натхняла на сустрэчу з цудоўным. Літаратурныя імпрэзы вяла пісьменніца Антаніна Хатэнка. Дзякуючы менавіта ёй, была арганізавана экскурсія ў Харужанцы і Акопы, туды, дзе Купала напісаў самыя лепшыя творы. Экскурсію правяла Антаніна Яўгенаўна прафесійна, гэта была не экскурсія, а цэлая лекцыя па творчасці Купалы з дэкламацыяй урыўкаў з твораў паэта. Яна распавяла шмат цікавага не толькі пра Купалу, але і пра Ядвігіна Ш., Змітрака Бядулю.

Наведалі мемарыяльны комплекс "Хатынь".

Хутка праляцелі дзесяць дзён. Яны былі цікавымі, змястоўнымі, запамінальнымі, кожны непаўторны. Я ўдзячная лёсу за падараваную сустрэчу з зямлёй Я. Купалы, З. Бядулі, Н. Гілевіча, мілай Лагойшчынай. Магчыма, будзе нагода яшчэ не раз там быць, але такое ніколі не паўторыцца, не будзе так свяціць маладзік, не будуць так зіхацець зоркі, не будзе так шаптаць прырода.

Надышоў дзень расстання. Ніхто не хацеў ад'язджаць. Развітваючыся, плакалі: так пасябравалі, так паяднаў летнік. Усе былі поўныя ўражанняў ад пачутага і ўбачанага, духоўна багатыя. Паступова на мерапрыемствы, якія ладзілі ў летніку "Яднанне", пачалі прыходзіць адпачываючыя з пансіяната "Рудня". Прыходзілі, таму што тут было цікава, прасілі паведамляць, калі што адбудзецца. Гэтыя радасныя дні падаравалі вы, Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі, Яўген Рыгоравіч Лецка, Антаніна Яўгенаўна Хатэнка, Лідзія Мікалаеўна Літвіновіч, гэта вас па праву ў летніку называлі "клапатлівай мамай", намеснік галоўнага ўрача "Рудні" Сяргей Яўгенавіч Тугай.

Дзякуючы вашым клопатам, вашым намаганням, вашай любові да дзяцей, быў арганізаваны летнік "Яднанне".

**Леакадзія МІЛАШ.**

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ І ЯГО НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

У той перыяд беларуская нацыянальная свядомасць як гістарычная з'ява, як працэс яшчэ выразна не заявіла аб сабе ні ў навуковых трактатах, ні ў мастацкіх творах, ні ў дзейнасці палітычных ці грамадскіх арганізацый або аб'яднанняў. І зусім зразумелым становіцца з'яўленне на свет такога дакумента, як "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай".

У гэтым "Пісьме..." ёсць радкі, якія карэнным чынам разбураюць арэол, створаны ў XX стагоддзі намаганнямі цэлых пакаленняў гісторыкаў, дзеячаў культуры, літаратуры вакол асобы К. Каліноўскага: "Дзецюкі! калі цяпер Ронд Польскі, падняўшы паўстанне проціў маскаля, дае нам зямлю, справядлівую вольнасць і веру нашых бацькоў, калі Француз і цэлы свет ідзе нам памагаці, калі як шырока зямля наша, народ грамадою, хто са стрэльбаю, а хто з касою, ідзе на адвечнага непрыяцеля, маскаля паганага, калі маскаль ад нашых кос агнём уцякае, чы ж мы, Дзецюкі, сядзеці будзем? мы, што жывема на зямлі Польскай, што ямо хлеб польскі, мы, Палякі з вякоў вечных".

Сёння нашы гісторыкі дружна ўзяліся даказваць, што ў тым канкрэтным выпадку Яська-гаспадар — гэта не Каліноўскі. М. Біч следам за А. Смірновым нават заявіў, што калі б Каліноўскі на самай справе з'яўляўся аўтарам таго "Пісьма...", то яго трэба было б лічыць польскім шавіністам. А. Смірноў — гэта аўтар даследавання пра "Мужыцкую праўду", апублікаванага ў кнізе "Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов". (Масква, 1960).

М. Біч, у прыватнасці, піша: "Але гісторыкі (А. Смірноў) даўно ўжо даказалі, што выданне "Пісьма Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай" было здзейснена не ў Вільні, не ў Гродні, а ў Варшаве польскімі шавіністамі з мэтай выкарыстаць у сваіх інтарэсах папулярны псеўданім К. Каліноўскага" ("Настаўніцкая газета", 17 ліпеня 1991 г.). Аўтар спаслаўся і на каронны аргумент тых, што не вераць подпісу Яські-гаспадара пад "Пісьмом...": "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні...", выдадзенае на беларускай мове ў форме адозвы са зваротам "Дзецюкі!", мела адбітак пячаткі друкарні Варшаўскага нацыянальнага ўрада, чаго не было ні ў адным выданні, якія бясспрэчна зыходзілі ад К. Каліноўскага. Гэта — адзін з фармальных доказаў таго, што не ён быў аўтарам названага пісьма" ("Беларускі гістарычны часопіс", 1993, № 3).

Між тым у А. Смірнова ёсць спасылка на сучаснікаў К. Каліноўскага, якія досыць выразна пра гэтыя справы пісалі. Той самы А. Смірноў, які, мабыць, першы абгрунтоўваў версію з пячаткай, у сваёй працы "Мужыцкая праўда" паведамляе: "У дадатках да ўспамінаў Я. Гейштара, складзеных Т. Корзанам, сцвярджаецца, што Каліноўскі "выдаваў у **тайнай друкарні Нацыянальнага ўрада** газетку на беларускай мове пад назвай "Мужыцкая праўда" (...), а таксама лістоўкі на гэтай мове, напрыклад **"Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай"** (усюды падкрэслена мною. — **У. К.**). Да гэтага часу ўсім вядома было, што "Мужыцкая праўда" друкавалася ў Беластоку, і гэтай інфармацыі ніхто і нідзе не аспрэчваў. А з успамінаў Гейштара і Корзана мы даведваемся, што і беластоцкая друкарня з'яўлялася **"тайнай друкарняй Нацыянальнага ўрада"**. Тут ёсць сэнс нагадаць, што Якуб Гейштар на працягу нейкага часу быў начальнікам К. Каліноўскага, а Тадэвуш Корзан (1839—1918) з'яўляўся вядомым гісторыкам.

У самога Смірнова мы сустракаем яшчэ раз падобную інфармацыю: "Агатон Гілер сцвярджае, што ў **Беластоцкай тайнай друкарні было надрукавана шмат адозваў, рэдактарам якіх з'яўляўся Каліноўскі, але з напісаных, на яго думку, самім Каліноўскім ён згадвае толькі "Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай"**. (Падкрэслена мною. — **У. К.**). І тут мы бачым не Вільню, не Гродна, але і не Варшаву, а ўсяго толькі Беласток.

На гэтыя ж мемуары спасылаецца і Генадзь Кісялёў у артыкуле "Здарэнне з Яськам-гаспадаром". Ён прыводзіць яшчэ адно сведчанне людзей, блізкіх да К. Каліноўскага. Са спасылкай на польскага гісторыка Д. Файнгаўза ён паведамляе: "У Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (...) захоўваецца незавершаная рукапісная праца гісторыка-бібліёграфа С. Пісарскага пачатку XX стагоддзя "Польскі перыядычны друк 1861—1864 гадоў". Аснову працы складае каталог, у якім на сваім месцы згадваецца і "Пісьмо ад Яська...", а ў дадатку падаецца яго копія, аналагічная тэксту Гілера, і гаворыцца, што гэтае выданне рэдагаваў Каліноўскі і — тут Файнгаўз цытуе Пісарскага — "пададзены экземпляр з'яўляецца памяткай па Канстанціне Каліноўскім, яго рукой праўлены" (...) Навуковая каштоўнасць гэтага сведчання ўзрастае, калі даведваемся (з прадмовы да зборніка "Падпольная прэса 1861—1864 гг.", частка 1. Вроцлаў-Варшава-Кракаў, 1966, с. V), што Станіслаў Пісарскі быў даволі блізкім сваяком (зяць сястры) А. Гілера, сам калекцыяніраваў тайную паўстанцкую прэсу і іншыя дакументы таго перыяду. А да Гілера ж — мы ведаем — нейкім чынам трапілі рэшткі творчай спадчыны Каліноўскага, якраз ён быў першым выдаўцом яго славутых "Пісьмаў з-пад шыбеніцы". Для самога Файнгаўза найбольш складанай загадкай аказалася справа з пячаткай друкарні Нацыянальнага ўрада.

А яшчэ Міхайла Драгаманаў (1841—1895), вядомы ўкраінскі эміграцыйны дэмакратычны дзеяч, які, як засведчыў Іван Франко, быў "цэнтрам калі не ўкраінскага руху, то ўкраінскай думкі на працягу цэлых 20-ці гадоў", пісаў: "...Канстанцін Каліноўскі, найшчырэйшы дэмакрат, выдаваў у Беластоку ў тайнай друкарні пабеларуску лісткі: "Пісьмо ад Яські-гаспадара з-пад Вільні", але пад загалоўкам "да мужыкоў зямлі польскай".

**У XIX стагоддзі К. Каліноўскі з усёй упэўненасцю і знаёмымі, і незнаёмымі называўся аўтарам "Пісьма..."** А ўжо ў XX стагоддзі пачаліся пошукі доказаў і аргументаў, якія б дазволілі пераконваць кагосьці, што тое шкоднае пісьмо падкінулі Яську-гаспадару польскія шавіністы, якія паставілі яшчэ сваю пячатку.

Некаторыя даследчыкі цвёрда не ўспрымаюць сведчанняў сучаснікаў Каліноўскага, хоць у іншых месцах самі заклікаюць шукаць у іх праўды. М. Біч папракаў мяне за тое, што я абмінуў такія важныя крыніцы інфармацыі: "Тыя дакументальныя сведчанні, якія не "стыкуюцца" з яго (Казберука. — **У. К.**) высновамі, ён проста ігнаруе. Маю на ўвазе кнігу паплечніка М. Мураўёва — афіцыйнага гістарыёграфа паўстання генерала В. Ратча, з аднаго боку, і ўспаміны шэрагу кіраўнікоў паўстання, віленскіх і варшаўскіх дзеячаў з ліку і "белых", і "чырвоных", якія асабіста добра ведалі К. Каліноўскага, з другога ("Настаўніцкая газета", 17 ліпеня 1991). Версію Смірнова ўзяў на ўзбраенне таксама і Г. Кісялёў.

Давядзецца апраўдвацца. І паможа мне ў гэтым Г. Кісялёў, які добрасумленна, праявіўшы вялікую эрудыцыю, не абмінаючы і карысных, і шкодных для яго канцэпцыі фактаў, зрабіў сур'ёзную спробу дадаткова аргументаваць выказаную А. Смірновым і падхопленую іншымі аўтарамі версію з пячаткай.

Г. Кісялёў звярнуў увагу, што тая пячатка, якая адыграла такую важную ролю ў разважаннях даследчыкаў, упершыню была выкарыстана ў канцы мая 1863 года. І толькі не пацікавіўся пытаннем, чаму так здарылася. Адказ на яго якраз і дапамагае ўдакладніць некаторыя факты.

Дык вось. 10 мая 1863 года Цэнтральны камітэт, які кіраваў паўстаннем, зацвердзіў пастанову аб сваім пераўтварэнні ў Нацыянальны ўрад ("Rzad Narodowy"). У артыкуле 2 пастановы сказана: "Цэнтральны камітэт з дня гэтага дэкрэта прымае назву Нацыянальнага ўрада і пад гэтай фірмай будзе выдаваць у далейшым усе распараджэнні". (Сама па сабе назва "Нацыянальны ўрад", або "Часовы нацыянальны ўрад", сустракалася і раней, але толькі цяпер яна аказалася ўзаконенай і трапіла ў пячаткі).

У дакуменце вызначаюцца мэты і задачы ўзброенай барацьбы:

Арт. 3. Вышэй адзначанае пераўтварэнне назвы ўрада не цягне за сабою ніякай змены прынцыпаў, якія цалкам застаюцца тымі самымі, а менавіта:

а. Заваяванне і забеспячэнне поўнай незалежнасці Польшчы, Літвы і Русі (гэта значыць, Украіны. — **У. К.**).

b. Вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці ў Польшчы, Літве і Русі ў адпаведнасці з дэкрэтам з дня 22 студзеня б. г.

c. Роўнасць перад законам усіх жыхароў Польшчы, Літвы і Русі, незалежна ад сацыяльнага становішча і веравызнання.

d. Забеспячэнне братнім народам Літвы і Русі, злучаным з Польшчаю, найшырэйшага развіцця нацыянальнасці і мовы.

e. Прызнанне Літвы і Русі ў якасці частак зусім роўных з Каронай, з якой яны ўтвараюць адзіную цэласную Польскую дзяржаву.

f. Абарона прынцыпаў і нацыянальных традыцый без папярэдняга вырашэння той або іншай формы ўрада, таму што гэта — прэрагатыва народа, і толькі сам народ пасля вяртання сваёй незалежнасці вырашыць гэта мае права.

А мы яшчэ прачытаем артыкул 4 дэкрэта: "Пячатку Нацыянальнага ўрада ўтвараюць гербы трох частак: Арла, Пагоні і Міхаіла Архангела на адным шчыце з Ягелонскай каронай злучаныя з надпісам па кругу: "Нацыянальны ўрад (зверху); Свабода — Роўнасць — Незалежнасць" (знізу)" (Дакумент апублікаваны ў кнізе А. Гілера "Гісторыя паўстання польскага народа...").

Гэтая пастанова заслугоўвае спецыяльнай увагі. Даследчыкі не раз гадалі, калі мог з'явіцца сёмы нумар "Мужыцкай праўды" і некаторыя іншыя дакументы. Генадзь Кісялёў, падводзячы вынікі разважанняў розных аўтараў, піша: "Цяпер прызнана, што сёмы нумар "Мужыцкай праўды" выйшаў у чэрвені адначасова з вядомым "Прыказам... да народу зямлі Літоўскай і Беларускай".

Тады ж, а хутчэй за ўсё ўслед за імі, з'явілася і "Пісьмо ад Яська..."

Дэкрэт ад 10 мая аб пераўтварэнні Цэнтральнага камітэта ў Нацыянальны ўрад пралівае дадатковае святло на гэтую справу. У сёмым нумары "Мужыцкай праўды" спасылкі робяцца ўсяго толькі на польскі маніфест ад 22 студзеня. І зусім не згадваецца такая "фірма", як "Ронд Польскі", што пазней абавязкова будзе прысутнічаць і называцца ў кожным дакуменце — ці то пастанове нейкага органа, ці пасланні аднаго Яські-гаспадара. Адсюль можам зрабіць вывад, што **газета пабачыла свет яшчэ перад 10 мая, гэта значыць, перад нараджэннем дэкрэта.** Затое ж "Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі Літоўскай і Беларускай" з'явіўся 11 чэрвеня, гэта значыць, пасля гэтай падзеі, якая пакінула след і ў загалоўку, і ў самым першым сказе дакумента.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**(Працяг будзе).**

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

# НЕВЯДОМЫ ФЕЛІКС

У падобных сем'ях звычайна з дзяцінства імкнуцца да вучобы і ведаў, а затым да адкрыцця ўласнай справы. Але Фелікс рана пачаў любоўныя раманы. Страціў цікавасць да вучобы. Аднойчы зняважыў і прылюдна даў аплявуху настаўніку нямецкай мовы, за што быў выключаны з гімназіі. Зблізіўся з крымінальнікамі, займаўся ў падпольных гуртках яўрэйскай моладзі, удзельнічаў у бойках, расклейваў па горадзе антыўрадавыя лістоўкі. У 1894 годзе ўступіў у літоўскую сацыял-дэмакратычную групу.

Пасля смерці маці Фелікс атрымаў 1 000 рублёў спадчыны і хутка прапіў іх у мясцовых піўных, дзе цэлымі днямі з такімі ж, як ён, хто начытаўся Маркса, абмяркоўваў планы пабудовы грамадства, у якім можна было б не працаваць. Муж старэйшай сястры Альдоны, даведаўшыся аб "выхадках" швагра, выгнаў яго з дому, і Фелікс пачаў жыццё прафесіянальнага рэвалюцыянера...

У 1897 годзе ў паліцыю Коўна паступіла агентурнае паведамленне аб з'яўленні ў горадзе падазронага маладога чалавека ў чорным капелюшы, заўсёды нізка насунутым на вочы, у чорным касцюме. Яго бачылі ў піўной, дзе ён частаваў рабочых з фабрыкі Цільманса. На допыце тыя паказалі: незнаёмец вёў з імі размову аб учыненні на фабрыцы бунту, у выпадку адмовы пагражаў жорстка збіць.

17 ліпеня пры арышце малады чалавек назваўся Эдмундам Жаброўскім, але хутка высветлілася, што ён "сталбавы дваранін Дзяржынскі". Не змогшы даказаць яго асабістага ўдзелу ў шматлікіх крывавых разборках, але ўсё-такі пратрымаўшы год у турме, яго саслалі на тры гады ў Вяцкую губерню. "Як па сваіх поглядах, так і па сваіх паводзінах, — прароча даносіў жандарскі палкоўнік віленскаму пракурору, — асоба ў будучыні вельмі небяспечная, здольны на ўсе злачынствы".

У 1904 годзе ў горадзе Нова-Александрыі ён праспрабаваў узняць узброенае паўстанне, сігналам да якога стаў бы тэрарыстычны акт у вайсковай часці. Фелікс заклаў дынаміт у афіцэрскім сабранні, аднак у апошні момант яго падручны пабаяўся і бомбу не ўзарваў.

Па сведчанні баевікоў Фелікса, яны бязлітасна забівалі ўсіх, на каго падала падазрэнне ў сувязях з паліцыяй.

Дзяржынскі шэсць разоў арыштоўваўся, аднак яго чамусьці не судзілі, а высылалі ў адміністрацыйным парадку, як гэта рабілі з прастытуткамі і дармаедамі. Чаму? Галоўная прычына — у слабай сведкавай базе. Сведкаў яго злачынстваў саратнікі забівалі, суддзяў і пракурораў запалохвалі. Па ўласных успамінах Дзяржынскага, ён "адкупляўся хабарам". А адкуль у яго такія грошы? І ўвогуле, на якія сродкі ён жыў?

Мяркуючы па расходах, грашыма Дзяржынскі распараджаўся немалымі. Ён насіў дарагія франтаватыя касцюмы, лакіраваныя чаравікі. Раз'язджаў па краінах Еўропы, жыў у лепшых атэлях і санаторыях Закапанэ, Радома, Пецярбурга, Кракава, адпачываў у Германіі, Італіі, Францыі. Усё гэта патрабавала грошай. Да таго ж вялікія сумы ішлі на зарплату баевікам (Дзяржынскі плаціў па 50 рублёў у месяц кожнаму, у той час як сярэдні рабочы атрымліваў 3 рублі), на выданне газет, пракламацый, лістовак, на арганізацыю з'ездаў, вызваленне рэвалюцыянераў пад залог, хабары чынам паліцыі, падробку дакументаў і многае іншае. Штогод сотні тысяч рублёў. Хто ж яго фінансаваў?

Па адной з версій, на арганізацыю смуты ў Расіі грошай не шкадавалі яе ворагі, па другой — залатаносная жылай была экспрапрыяцыя ўсяго, што было ў банках, папросту грабеж...

На пытанне, ці падвяргаўся ён рэпрэсіям за рэвалюцыйную дзейнасць да Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дзяржынскі пісаў у анкеце: "Арыштоўваўся ў 97, 900, 905, 906, 908 і 912 гадах, праседзеў усяго 11 гадоў у турме, у тым ліку на катарзе (8 плюс 3), быў тры разы ў ссылцы, заўсёды ўцякаў". Але за якія злачынствы — маўчок. З кніг вядома: 4 мая 1916 года Маскоўская судовая палата прыгаварыла яго да 16 гадоў катаржных работ. Але ні слова пра тое, што пры царскім рэжыме да катаргі прыгаворваліся толькі забойцы.

Лютаўская рэвалюцыя застала Дзяржынскага ў Бутырскай турме. 1 сакавіка 1917 года Фелікса вызвалілі. Выйшаў ён з Бутыркі ледзь жывы — сукамернікі, даведаўшыся, што ён даносчык, жорстка збілі яго. Аднак у Польшчу ён не вярнуўся. Некаторы час жыў у Маскве, а потым паехаў у Петраград.

У жніўні 1917 года збіраецца VI з'езд бальшавікоў... Дзяржынскі выпрашае пазбавіць Расію ад эксплуататараў. І хаця бальшавіком ён ніколі не быў, яго адразу выбіраюць у ЦК партыі і наладжваюць сакрэтную сустрэчу з Леніным, які знаходзіўся ў Разліве.

Былыя палітычныя ворагі (бальшавікі, эсэры і г. д.) на час аб'ядноўваюцца ў адзіны фронт і агульнымі намаганнямі звяргаюць Часовы ўрад. Актыўную ролю ў захопе ўлады адыграў Дзяржынскі. "Ленін стаў зусім непрытомным, і калі нехта мае на яго ўплыў, дык гэта толькі "таварыш Фелікс". Дзяржынскі яшчэ большы фанатык", — пісаў народны камісар Леанід Красін.

Пасля Кастрычніка Ленін накараваў "жалезнага Фелікса" ў Наркамат унутраных спраў як чалавека, які ведае крымінальны свет і турэмнае жыццё.

7 снежня 1917 года Савет Народных Камісараў стварае Усерасійскую Надзвычайную Камісію па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам. І хаця камісіі гэтай надаецца роля следчага камітэта, санкцыі ёй членаў значна шырэйшыя: "Меры — канфіскацыя, высяленне, пазбаўленне картак, апублікаванне спісаў ворагаў народа і г. д." Па сведчанні Лацыса, "Фелікс Эдмундавіч сам напрасіўся на работу ў ВЧК". Ён хутка ўваходзіць у курс справы, і калі ў снежні яшчэ сам нярэдка ездзіць на вобыскі і арышты, то ў пачатку 1918 года, заняўшы вялікі будынак са склепамі і падваламі на Лубянцы, пачынае асабіста фарміраваць каманду.

Першай статыстычна афіцыйнай ахвярай чэкістаў лічыцца нейкі князь Эбалі, які "ад імя ВЧК рабаваў буржуяў у рэстаранах". З яго расстрэлу пайшоў адлік ахвяраў таталітарнага рэжыму. Пад прыгаворам — подпіс Дзяржынскага.

...Вядомы факт. У 1918 годзе на адным з пасяджэнняў Саўнаркома, дзе абмяркоўвалася пытанне аб забеспячэнні, Ленін паслаў Дзяржынскаму запіску: "Колькі ў нас у турмах злачынных контррэвалюцыянераў?" Першы чэкіст вывеў на паперцы: "Каля 1 500". Дакладнай лічбы арыштаваных ён не ведаў: за краты саджалі ўсіх, не разбіраючыся. Ленін паставіў каля лічбы крыж і перадаў паперку назад. Фелікс Эдмундавіч выйшаў.

Той жа ноччу "каля 1 500 злачынных контррэвалюцыянераў" паставілі да сцяны.

Пазней сакратар Леніна Фоціева тлумачыла: "Адбылося непаразуменне. Уладзімір Ільіч зусім не хацеў расстрэлу. Дзяржынскі яго не зразумеў. Наш правадыр звычайна ставіць на запісцы крыжык у знак таго, што прачытаў яе і прыняў да ведама".

Раніцай зрабілі выгляд, што нічога надзвычайнага не адбылося. Саўнарком абмяркоўваў архіважнае пытанне: да Масквы падыходзіў доўгачаканы састаў з харчаваннем...

У 1918 годзе атрады чэкістаў складаліся з матросаў і латышоў. Адзін такі матрос увайшоў у кабінет старшыні п'яным. Той зрабіў заўвагу, матрос у адказ груба аблаяў яго. Дзяржынскі выхапіў рэвальвер і некалькімі выстраламі забіў матроса на месцы.

З пратакола пасяджэння ВЧК ад 26 лютага 1918 года: "Слухалі — аб учынку т. Дзяржынскага. Пастанавілі: адказнасць за ўчынак нясе сам і ён адзін, Дзяржынскі. На будучыню ж усе рашэнні пытанняў аб расстрэлах вырашаюцца ў ВЧК, прычым рашэнні лічацца станоўчымі пры палавінным складзе членаў камісіі, а не персанальна, як гэта мела месца пры ўчынку Дзяржынскага". З тэксту пастановы відаць: Дзяржынскі расстраляў асабіста.

Дзяржынскім была падпісана бальшасць ордэраў на вобыск і арышт, яго подпіс стаіць на прыгаворах, яго пяру належаць сакрэтныя інструкцыі аб татальнай вярбоўцы сакрэтных супрацоўнікаў і тайных агентаў ва ўсіх сферах грамадства. "Трэба заўсёды помніць прыёмы езуітаў, якія не шумелі на ўсю плошчу аб сваёй рабоце і не выстаўлялі на паказ, — павучаў "жалезны Фелікс" у сакрэтных загадах, — а былі скрытнымі людзьмі, якія пра ўсё ведалі і ўмелі толькі дзейнічаць..." Галоўным напрамкам работы чэкістаў ён лічыць тайную паведамляльнасць і патрабуе ад кожнага вербаваць як можна больш сакрэтных супрацоўнікаў. "Для набыцця сакрэтных супрацоўнікаў, — павучае Дзяржынскі, — неабходна пастаянная і працяглая размова з арыштаванымі, а таксама іх сваякамі і знаёмымі... Зацікавіць поўнай рэабілітацыяй пры наяўнасці кампраметуючага матэрыялу, здабытага вобыскамі і агентурнымі звесткамі... Скарыстаць нелады ў арганізацыі і спрэчкі паміж асобнымі людзьмі... Зацікавіць матэрыяльна".

Аб размаху рэпрэсій толькі ў 1918 годзе сведчыць афіцыйная статыстыка, апублікаваная ў самой ЧК у тыя гады: "Падаўлена 245 паўстанняў, раскрыта 142 контррэвалюцыйныя арганізацыі, расстраляна 6 300 чалавек". Вядома, чэкісты тут яўна паскромнічалі. Па разліках незалежных гісторыкаў, на самай справе забіта было звыш мільёна чалавек.

У маі 1918 года ў ВЧК трапляе 20-гадовы Якаў Блюмкін, якому тут жа было даручана кіраўніцтва аддзелам па барацьбе з нямецкім шпіянажам.

6 ліпеня Я. Блюмкін і Н. Андрэеў прыязджаюць у Грашовы завулак, дзе размяшчалася германскае пасольства, і прад'яўляюць мандат на права перагавораў з паслом. На паперы подпісы Дзяржынскага, сакратара Ксенафонтава, рэгістрацыйны нумар, штамп і пячаць.

У час размовы Блюмкін страляе ў пасла, узрывае дзве гранаты, а самі "дыпламаты" ўцякаюць у мітусні. Разгараецца небывалы міжнародны скандал. Дзяржынскі, не міргнуўшы вокам, заяўляе, што на мандаце яго подпіс падроблены... Але несумненна, што ўсё арганізавана ім. Па-першае, ён катэгарычна супраць міру з Германіяй (супраць Германіі намячаліся шырокамаштабныя аперацыі). Па-другое, бальшавікам патрэбна нагода для расправы з эсэрамі (якраз яны і былі аб'яўлены забойцамі пасла). І, па-трэцяе, Якаў Блюмкін пасля гэтай аперацыі павышаны па службе.

8 ліпеня "Праўда" апублікавала заяву Дзяржынскага: "З-за таго, што я з'яўляюся, несумненна, адным з галоўных сведкаў па справе аб забойстве германскага пасланніка графа Мірбаха, я не лічу для сябе магчымым заставацца ў ВЧК... у якасці яе старшыні, як і ўвогуле прымаць які-небудзь удзел у камісіі. Я прашу Савет Народных Камісараў вызваліць мяне".

Расследаваннем забойства ніхто не займаўся, почыркаznaчая экспертыза не праводзілася, і тым не менш ЦК партыі адхіляе яго ад пасады. Праўда, ненадоўга. Ужо 22 жніўня Фелікс Дзяржынскі займае ранейшае крэсла. І своечасова. У ноч з 24 на 25 жніўня ВЧК арыштоўвае больш за сто вядомых дзеячаў партыі эсэраў, абвінавачуючы іх у контррэвалюцыі і тэрарызме. У адказ 30 жніўня Леанід Канегісер забівае старшыню петраградскай "надзвычайкі" Майсея Урыцкага. Дзяржынскі асабіста едзе ў Петраград і распараджаецца ў адплату расстраляць 1 000 чалавек. 30 жніўня страляюць у Леніна. Чэкісты ў замаху абвінавачваюць эсэрку Фані Каплан. Дзяржынскі дае згоду на масавую бойню ў Маскве.

Не паспеўшы замацавацца ва ўладзе, бальшавікі экспартуюць рэвалюцыю за мяжу. Для фінансавання гэтых рэвалюцый яны маглі даваць толькі нарабаванае — золата, каштоўнасці, карціны вялікіх майстроў. Перапраўку ўсяго гэтага можна было даверыць толькі самым "жалезным таварышам". У выніку, у кароткі тэрмін пушчаны на вецер амаль увесь залаты запас Расіі. А ў банках Еўропы і Амерыкі сталі з'яўляцца рахункі на імя першых асоб маладой савецкай дзяржавы.

Дзяржынскаму пашанцавала: ён не дажыў да трыццаць сёмага года. Не быў атручаны, застрэлены, пакараны смерцю. Ён памёр сваёй смерцю, не дацягнуўшы да сарака дзевяці гадоў, 20 ліпеня 1926 года ў 16 гадзін 40 мінут у сваёй крамлёўскай кватэры.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

---

СТО гадоў з дня нараджэння спаўняецца вядомаму вучонаму-цюрколагу ўраджэнцу Беларусі Аляксандру Пальмбаху (нарадзіўся 29.08 (10.09) 1897 года). У беларускім друку гэтае імя сустракаецца не надта часта. І таму ёсць сваё тлумачэнне: талент Аляксандра Адольфавіча ў поўнай меры праявіўся далёка за межамі Беларусі, у малавядомай нам Туве. Там яго памятаюць і паважаюць да гэтага часу.

Як сцвярджае энцыклапедыя "Літаратура і мастацтва Беларусі", наш знакаміты зямляк нарадзіўся ў Верхнядзвінску. Вядомая тувінская даследчыца айчыннай літаратуры Хадаханэ (Ізвекава), дарэчы, па нацыянальнасці буратка, у сваім літаратурна-дакументальным даследаванні "Аляксандр Пальмбах — пісьменнік і чалавек" удакладняе: "...нарадзіўся (Пальмбах. — **М. Ш.**) у вёсцы Дрыса Віцебскай губерні".

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ПАВАЖАНЫ СЫН ТУВЫ

Сям'я Пальмбахаў была тыповай для прадстаўнікоў тагачаснай інтэлігенцыі. Бацька будучага вучонага меў практыку ўрача-хірурга, маці выкладала замежныя мовы. Здольнасці да моў праявіліся і ў Аляксандра, які быў адным з шасці сыноў сваіх бацькоў. Апошнія ўсяляк імкнуліся садзейнічаць развіццю таленту Аляксандра, падтрымлівалі яго намаганні на філалагічным напрамку. У прыватнасці, бацька для гэтай мэты здзейсніў са сваім сынам паездку па Італіі, Францыі, Германіі.

Трэба адзначыць, што ў сям'і Пальмбахаў з павагай ставіліся не толькі да нямецкай, французскай, лацінскай, грэчаскай, англійскай моў, але і да тутэйшай — размоўнай беларускай. І не лішнім будзе сказаць, што ў Пальмбахаў цякла змешаная кроў — нямецкая, польская, руская.

Вельмі хутка юны Аляксандр пачынае цікавіцца і арабскай мовай. Спрыяў яму ў гэтым вядомы цюрколаг і арабіст Пацапуеўскі, які на той час жыў у Віцебску.

У 1915 годзе Аляксандр Пальмбах з залатым медалём скончыў Віцебскую мужчынскую гімназію, у гэтым жа годзе стаў студэнтам Політэхнічнага інстытута ў Петраградзе. Але вучобу перапыніла вайна, якая на той час ішла ўжо другі год. Такім чынам, нашаму земляку давялося трапіць у якасці камандзіра артылерыйскага ўзвода на Заходні фронт першай сусветнай вайны. З вайсковай формай будучы вучоны развітаўся толькі ў 1921 годзе, паваяваўшы пры гэтым яшчэ і на франтах грамадзянскай вайны. Праўда, і ў такі смутны час ён не забываў пра вучобу: у 1918 годзе экстэрнам здаў экзамены на "выдатна" за курс археалагічнага аддзялення Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута.

Потым Аляксандр Пальмбах пэўны час настаўнічаў на Віцебшчыне, у Маскве. У гэты ж перыяд ён пачаў

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**Госць сённяшняй літаратурнай старонкі — наш даўні аўтар з Санкт-Пецярбурга Анатоль Кірвель. Ён падрыхтаваў да друку новую кнігу, якая мае назву "Ласінае крэда".**

**Анатолю Кірвелю — пісьменніку і публіцысту, вядомаму не толькі на Беларусі, — уласцівая неардынарнасць творчага пошуку. На гэты раз ён прапаноўвае не ўжо звычныя і для яго, і для чытача вершы ці мініяцюры ў прозе, а кампазіцыі — так пазначыў аўтар знойдзены ім, а хутчэй — дык адкрыты нанава жанр, якім даўно карыстаецца і выяўленчае мастацтва, і музыка, жанр, які, магчыма, запатрабуе ад чытача пэўных намаганняў, перш чым ён увойдзе ў асацыятыўна-вобразны свет таго, пра што распавядае аўтар.**

**Але складанасць гэтага ўяўнага, створанага фантазіяй пісьменніка свету таксама ўяўная: чытач лёгка здагадаецца, пра што ідзе размова ў кампазіцыях Анатоля Кірвеля — пра нашае з вамі жыццё, пра нашы пошукі праўды, пра тое, як знайсці сваё месца ў жыцці і ў свеце.**

## З НОВАЙ КНІГІ

# ЛАСІНАЕ КРЭДА

## КАМПАЗІЦЫЯ № 2

**(скарочана)**

Слёзы няўстрым — хай бы гаючымі, а то пякельна-салёнымі ручаямі — ліліся з пачырванелых ласіных вачэй, і ён не мог загадаць сабе не плакаць: сёння ён развітваўся з Ласіхай, бо статак апошні раз папярэдзіў, што цяр

пець болей не будзе: Лось павінен адпусціць Ласіху з мірам... А чаго ж вы хацелі?! Каб сталы дужы Лось — ды прыліп да маладзенькай Ласіхі, якая яшчэ не навучылася добра стаяць на сваіх тонкіх ласіных нагах?! Не-е, гэтнага ў іхняй чарадзе яшчэ не было!

Але як жа ён мог так проста адпусціць яе?! Як мог назаўсёды адмовіцца ад такога неверагоднага шчасця: штодзень бачыць удзячныя, поўныя захаплення і заўсёды трошкі здзіўленыя вочы Ласіхі... і лёгенька, нібыта жартам, паштурхваць яе ў цёплы, напяты, нібы спружына, бок, і Ласіха, дурэючы, таксама штурхала яго, а ён, ледзь стрымліваючы свае пачуцці, усёй скурай лавіў гэтыя нечаканыя і шчэ не ўсведамленыя ёю як ласка дотыкі Ласіхі, і сэрца ягонае замірала ад пяшчоты, ад велізарнай любові да яшчэ неразумнага, але такога мілага стварэння, — замірала ад кахання, якому няма ні назвы, ні прыкладу...

І вось цяпер ён мусіць адмовіцца ад усяго гэтага: так вырашыў статак... Не! Гэта ён, Лось, спасцігшы нарэшце, што такое выпрабаванне — ані не для Ласіхі — ну адкуль у яе сілы супрацівіцца статку?! — вырашыў сам адмовіцца ад той, якую кахаў — каб у статку панаваў мір і спакой, — а ён... ён пражыве неяк так... без яе... хіба яму ўпершыню?!

І слёзы самі цяклі з вачэй, і ён не мог супыніць іх — адзінае, у чым ён даў сабе волю, — і праз гэта яму было пякельна сорамна пазіраць на Ласіху, у вачах якой не прыкмячалася ўжо гэтулькі сама шчырага захаплення, як раней: маладзенькія не любяць чужых слёз — ім даражэйшыя свае... І Лось, час ад часу матляючы галавой, страсаў долу тыя горкія слёзы, каб яны не перашкаджалі яму зазіраць у любімыя вочы...

Спачуваючы яго пакутам, Ласіха сумнавата ўсміхнулася яму: яна таксама ведала, што такое статак — неаднойчы бачыла, чым канчаецца нязгода ці непаслушэнства, — і таму разумела — не горш за Лася, — што сёння — апошняя іх сустрэча.

Нібыта шкадуючы — ці то яго, ці то сябе — яна дазволіла яму асцярожненька пацерціся аб яе бок, і надзея зноў успыхнула ў ім. Лось уздрыгнуў, запытальна зірнуў на Ласіху, але дарэмна: адказу не атрымаў — Ласіха знарок адвярнула галаву, — і тады ён, быццам таксама выпадкова, а на справе — каб высветліць, чаго ж варты яе дазвол, — яшчэ шчытней прытуліўся да Ласіхі, і яна не адштурхнула яго, толькі лёгенька, нібы ўзгадваючы былыя ўцехі, прасунула галаву пад ягоную шыю і трохі націснула на гарляк...

Няўжо яна хоча — страпянуўся Лось, — каб было так, як раней... Няўжо яна хоча развітацца са мной якраз во гэтак?!

Ён знарок папіхнуў Ласіху — у бок статку, — але яна і вухам не павяла — нібыта нічогенька не зразумела — і зноў пяшчотна прыціснулася да Лася, і ён бязвольна і паслухмяна апусціў рогі; адчуў, што не здолее адмовіць ёй: любое яе жаданне — нават самае маленечкае — закон для яго...

І Лось, падпарадкоўваючыся таму, што віхурай наляцела на яго, смелым і дужым рухам прыгнуў галаву Ласіхі, і тая... не ўпарцілася... Яе гарачае, але падатлівае цела прымусіла Лася канчаткова забыцца на ўсё — Ласіха цалкам адняла ў яго розум, — і Лось, пазбаўлены яго, карыстаўся цяпер адно тым, што засталося ў яго: здольнасцю чуйна лавіць усе яе рухі і адказваць на іх так, як умеў толькі ён — не прапускаючы ніводнага і ў кожным знаходзячы тое, што было патрэбна і яму, і ёй, — і ўзляцеў праз тое на вяршыню неверагоднага — бадай, незямнога! — пачуцця: дрыготкі агонь абпаліў усё ягонае цела, стрэліў у самае нутро раптоўнай маланкай і ў той самы момант ператварыўся ў слодыч... Гэта доўжылася ўсяго імгненне — так здалося Ласю...

Ласіха стрымана пацерлася аб ягоны бок і задаволена фыркнула. Яна ўжо не спяшалася бегчы — туды, дзе быў статак, — паспее яшчэ! — і цікаўна разглядвала Лася, нібы толькі цяпер даведалася, які ён...

А ён, не разумеючы таго, што з ім, няўцямна пазіраў на Ласіху і дзівіўся, чаму слёзы ягоныя — высахлі?! Яму зусім не хацелася плакаць — ад былога суму і роспачы не засталося і следу...

Дык што ж гэта?! Чаму ён — зусім нядаўна такі гаротны — не адчувае сябе гэткім цяпер? Яму нават смешна, што ён так бяздумна і нястрымана плакаў...

І — як раней слёзы — яму не стрымаць ужо іншага пачуцця: не тое каб радасці, а... задавальнення — яму так добра цяпер, як ніколі...

Няўжо ж тады, калі ліў слёзы, ён хацеў не таго, каб яна запомніла, якім высокім, якім светлым і якім вусцішна-ахвярным бывае каханне... І каб яна захавала гэты ўспамін на ўсё жыццё... А толькі каб па целе ягоным, змятаючы ўсё на свеце, прабегся той самы дрыготкі агонь — каб абпаліў усё нутро — з галавы да ног — і ператварыўся потым у самую прыемную на свеце слодыч — слодыч імгнення, якое тым, што яно ёсць, вызваляе цябе ад любых пакут, любых невясёлых ці горкіх думак, і нараджае ў целе замірэнне душы...

Дык вось чаго нам не хапае, каб мы горда і незалежна пазіралі на свет: не нашай высакароднай балбатні, а таго кароткага, як маланка, моманту, калі мы ёсць тыя, хто мы ёсць...

Дык няўжо гэта мана — тыя высокія думкі і словы, якімі мы карыстаемся?! Няўжо яны — самы звычайны падман — самая найпростая ласіная хітрасць — неверагодная хітрасць цела, якое жадае мець тое, што яно жадае мець...

І Лось усвядоміў, што сапраўдная шчырасць — не ў словах, сапраўдная шчырасць у тым, што ты паспяваеш зрабіць паміж адным прыгожым словам і другім... І тое, што ты зробіш за гэты час, — яно застаецца, а словы — мана... шчырая прыгожая мана, ад якой крыху лягчэй хіба ў той момант, калі адчайна і безнадзейна маніш...

Ён ажно знямеў ад гэтых думак і быў не паверыў, што ўсё гэта — ягоныя думкі і пачуцці... Але як не паверыць, калі гэта было з ім! — ён выдатна помніць усё: як пяшчотна і як гаротліва пазіраў на Ласіху... як успыхнуў... і як гарэў у той момант... і ўсведамляе выдатна, як насмешліва — з выглядам пераможцы! — пазірае на яе цяпер...

Дык чым жа ён лепшы за астатніх?! Ды, бадай, яшчэ горшы — бо карыстаўся высокімі і святымі словамі як прынадай — як сродкам атрымаць тое, на што ўжо не мог разлічваць... і калі ён — сапраўды гэткі! — то гэта — канец: як жыць, ані не паважаючы сябе?!

Дурненькі! Гэта не канец! Гэта — пачатак!

Дурасліва ўскідваючы нагамі, Ласіха краем паляны бегла туды, дзе быў статак, і было прыкметна, што яна не збіралася вяртацца — у статку ёй будзе лягчэй...

Нават калі б Лось і не пачуў апошніх яе слоў, ён усядно не кінуўся б даганяць яе: у пачуццях пярэчыць нельга — іх можна толькі разумець альбо не...

І калі маладзенькая Ласіха схавалася ў гушчары, Лось зразумеў, што тая, па кім ён так горка плакаў, у гэты момант ужо непатрэбна яму... Непатрэбна гэтак, як раней, як учора, як сёння... Бо заўтра — і Лось спасціг гэта толькі што — яго чакае зусім іншае: заўтра — ён мусіць бегчы!

І яшчэ ён адчуў, што цяпер — пасля развітання — цалкам гатовы да гэтага: маладзенькая Ласіха надала яму сілы, хаця і паклапацілася падзяліцца розумам... Ды і нашто яму такі недасканалы, калі ў яго ёсць свой ... лепшы... які быў адключыўся... але ж толькі на момант, толькі адзін раз... І толькі дзеля таго, каб Лось зразумеў, што яму — пара бегчы!

Ён нерухома стаяў на адным і тым месцы і цярпліва чакаў ночы. Бо за ёй — з першым промнем, з першым подыхам раніцы — яго пільнавала імгненне, калі ён зробіць свой першы крок... І пачне бег... Да Адзіноты...

Бо той, хто хоць аднойчы трапіў на Вяршыню — ад якой замірае сэрца і кружыцца галава, — ужо не здолее спыніцца там другі раз, пакуль не зведае сапраўдную — непадробную — Адзіноту — Адзіноту Роздуму... Ды пакуль не пераадолее яе... Тую Адзіноту, да якой прыходзіш толькі тады, калі Каханне дашчэнту спаліла цябе... Божа, зноў тая самая лухта! — ды не цябе! — не трэба зноўку маніць! — спаліла якраз тое, што заўжды перашкаджае бегчы... Бегчы да... Невядомасці...

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**



## МАКСІМУ ТАНКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 85 ГАДОЎ

# У ПІЛЬКАЎШЧЫНЕ, НА РАДЗІМЕ ПЕСНЯРА

**Надмагільны знак быў адкрыты 20 верасня на радзіме народнага паэта Беларусі Максіма Танка ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна.**

**Цудоўная па сваёй прастаце кампазіцыя з двух крыжоў, злучаных лаўровым вянком, увянчала магілу паэта і яго жонкі Любові Скурко. Архітэктар Ігар Марозаў і скульптар Анатоль Арцімовіч стварылі гэты знак як сімвал таленту народнага песняра, як сімвал кахання двух людзей, якія нарадзіліся ў адзін год у адной вёсцы і памерлі таксама ў адзін год з розніцай у некалькі месяцаў.**

**На цырымонію адкрыцця надмагільнага знака прыйшлі сябры паэта, родныя і аднавяскоўцы. Аб таленце і чалавечых якасцях Максіма Танка гаварылі паэты Анатоль Вярцінскі, Мікола Аўрамчык, Алесь Пісьмянкоў, народная артыстка Рэспублікі Беларусь Марыя Захарэвіч.**

**У гэты дзень вершы Максіма Танка, фрагменты дзённікаў паэта, песні на яго вершы гучалі на літаратурным вечары. Ён адбыўся ў зале будынка Мядзельскага райвыканкома і быў прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка.**

**НА ЗДЫМКАХ: помнік, устаноўлены на магіле Максіма ТАНКА; у час цырымоніі адкрыцця помніка; вечар, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**





ВЫСТАВА

# «ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАЙ АРХЕАЛОГІІ»



Археалагічнае вывучэнне старажытнасцей Беларусі пачалося ў 2-й палове XVIII стагоддзя. Т. Нарбут даследаваў курганы паміж Магілёвам і Рагачовам. З. Даленга-Хадакоўскі склаў 4-томны "Слоўнік назваў гарадзішчаў і урочышчаў". У сярэдзіне XIX стагоддзя Я. Тышкевіч вывучаў курганы на Міншчыне і на аснове сабраных матэрыялаў стварыў у 1855 годзе Віленскі музей старажытнасцей. Яго брат К. Тышкевіч даследаваў каля 200 кургаиоў, гарадзішчы і замчышчы Мінскай губерні, склаў іх тапаграфічныя планы. У канцы XIX стагоддзя Е. Раманаў сабраў звесткі пра 1 000 помнікаў археалогіі, склаў археалагічныя карты.

Выстава "Ля вытокаў беларускай археалогіі" ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, працавала ў верасні і была прысвечана археолагам 1920 — 1930 гадоў.

У 1919 годзе пры Наркамаце асветы Літоўска-Беларускай рэспублікі была ўтворана першая дзяржаўная ўстанова — археалагічная камісія, якая, акрамя даследчых задач, узяла на сябе функцыі ўліку і аховы археалагічных помнікаў. На базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамаце асветы БССР створаны Інстытут беларускай культуры. У кастрычніку 1925 года — гісторыка-археалагічная камісія, якую ўзначаліў М. Доўнар-Запольскі, а вучоным сакратаром стаў дацэнт Белдзяржуніверсітэта З. Даўгяла. Яны склалі штат камісіі, астатнія яе 16 членаў, прызваныя рашаць даследчыя задачы, прыцягваліся з іншых устаноў.

У 1932 годзе археалагічная камісія была перайменавана ў секцыю археалогіі. У яе штат уваходзілі А. Ляўданскі (загадчык), К. Палікарповіч і С. Дубінскі. З 1932 года А. Каваленя. Супрацоўнікі секцыі археалогіі зрабілі значны ўклад у археалагічнае вывучэнне Беларусі. У 1930-я гады на тэрыторыі Беларусі ў выніку суцэльнага абследавання было зафіксавана каля 800 стаянак каменнага і бронзавага вякоў, 864 гарадзішчы і больш за 100 селішчаў жалезнага веку, каля 20 бескурганных і 3 000 курганных могільнікаў, аформлена каля 8 000 уліковых картак на помнікі археалогіі і асобныя рэчы, зроблена шмат фотанегатываў, планаў і чарцяжоў асобных аб'ектаў.

К. Палікарповіч выявіў і даследаваў палеалітычныя стаянкі ў Бердыжы, Падлужжы, Юравічах, помнікі мезаліту, неаліту і бронзавага веку на Дняпры, Сажы, Беседзі, Заходняй Дзвіне. Абгрунтаваў думку, што чалавек на тэрыторыі Беларусі з'явіўся ў палеаліце.

С. Дубінскі даследаваў помнікі жалезнага веку і сярэднявечча. Праводзіў раскопкі і вывучаў курганы XI—XIII стагоддзяў на Міншчыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне. Склаў і выдаў у 1933 годзе першую "Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін".

А. Ляўданскі — арганізатар першых у Беларусі навукова-археалагічных экспедыцый. Зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў ранняга жалезнага веку, выявіў іх культурна-археалагічную прыналежнасць, вызначыў рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальнага ладу плямён жалезнага веку. Даследаваў Віцебск, Оршу, Заслаўе. Даў першую і найбольш поўную гістарычную тапаграфію старажытнага Полацка, вывучаў яго помнікі. А. Ляўданскі стварыў калектыў археолагаў-энтузіястаў, якія зрабілі значны ўклад у вывучэнне старажытнасцей Беларусі. Важнае месца ў развіцці археалогіі займаюць І. Сербаў, С. Шутаў, М. Улашчык і інш.

У 1920-1930-я гады былі разгорнуты планамерныя і сістэматычныя палявыя даследаванні, аб'яднаныя агульнай навуковай праграмай. Адкрыта значная колькасць старажытных паселішчаў і могільнікаў. У даваенны час быў закладзены фундамент і многія накірункі сучаснай археалогіі Беларусі, выпрацоўваліся новыя метады даследавання. Пачала фарміравацца беларуская школа археалогіі.

Вялікія страты панесла навука ў час сталінскіх рэпрэсій 1930-х гадоў, загінулі многія вядучыя беларускія навукоўцы. Археолагі А. Ляўданскі, С. Дубінскі і А. Каваленя былі арыштаваны і расстраляны 27 жніўня 1937 года.

На выставе "Ля вытокаў беларускай археалогіі" прадстаўлены матэрыялы археалагічных даследаванняў А. Ляўданскага, С. Дубінскага, С. Шутава, А. Кавалені: рэчавыя помнікі, дакументы, фотаздымкі са збору Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. У стварэнні выставы прымалі ўдзел Цэнтральны навуковы архіў Акадэміі навук Беларусі, Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь.

**На ЗДЫМКАХ: экспазіцыя выставы; яны стаялі ля вытокаў беларускай археалогіі.**



*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# У ІМЯ БЕЛАРУСКАСЦІ

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачало ў 1994 годзе новую серыю "Галасы беларускага замежжа", якая ўжо дазволіла кожнаму, хто неабыякавы да нацыянальнага адраджэння, хоча ведаць гісторыю, літаратуру, культуру свайго народа не ў "прэпарыраваным" выглядзе, а такой, якой яна з'яўляецца на самай справе, пазнаёміцца з найбольш яркімі прадстаўнікамі той часткі беларускай дыяспары, што склалася з людзей, вымушаных у канцы другой сусветнай вайны развітацца з Радзімай. Першай ластаўкай у гэтай бібліятэчцы стаў аднатомнік выбраных твораў Янкі Юхнаўца "Сны на чужыне". Пасля выходзілі кнігі Юркі Віцьбіча "Плыве з-пад святое гары Нёман", Кастуся Акулы "Змагарныя дарогі", Наталлі Арсенневай "Яшчэ адна вясна". І вось з'явіўся зборнік "Святая Ефрасіння-Прадслава, патронка Беларусі" Льва Гарошкі.

Леў Гарошка — постаць у беларускай дыяспары па-свойму адметная. Ужо хоць бы тым, што ён сваё жыццё звязаў з рэлігійнай службай. Таму не выпадкова на вокладцы кнігі пазначана не проста Леў Гарошка,— "а. Леў Гарошка". А, па-другое, — і гэта асабліва важна — Л. Гарошка не толькі сумленна служыў Богу і ставіў на шлях веры іншых, а жыў беларускасцю. Дарэчы, пацвярджэнне таму і матэрыялы, змешчаныя ў кнізе, а таксама ўступны артыкул Уладзіміра Арлова "Божым шляхам" (У. Арлоў не толькі напісаў прадмову, а і зрабіў укладанне зборніка, тэксталагічную падрыхтоўку, падабраў ілюстрацыі).

Нарадзіўся Л. Гарошка 26 лютага 1911 года ў вёсцы Трашчычы Навагрудскага павета, цяпер Карэліцкі раён. Праўда, У. Арлоў сцвярджае, што гэта адбылося ў Стаўбцоўскім павеце, а куды Трашчычы адносяцца сёння, не гаворыцца. Відаць, усё ж трэба верыць першаму сцвярджэнню, якое ўзята з Энцыклапедыі гісторыі Беларусі.

Скончыўшы сямігодку ў Міры, Л. Гарошка ў 1928 годзе паступіў у беларускую гімназію ў Навагрудку. Далейшы шлях яго ляжаў у 1931 годзе ў Львоўскую грэка-каталіцкую духоўную акадэмію, што адбылося не без дапамогі Антона Луцкевіча.

Сваю пастырскую дзейнасць Л. Гарошка пачаў у Любашаве, затым працаваў у Грынічах, Стоўбцах. З 1939 года займаўся педагагічнай дзейнасцю, якая працягвалася да 1944 года. Выкладаў беларускую мову ў гандлёвай школе, потым беларускую і лацінскую мовы ў медыцынскім вучылішчы і на настаўніцкіх курсах. Аб сумленнасці Л. Гарошкі сведчыць тое, што ён дапамагаў моладзі ратавацца ад прымусовага вывазу ў Германію.

Сам жа, калі пачалося вызваленне Беларусі, падаўся за мяжу. Іншага выйсця не заставалася: працаваў пры немцах — значыць калабарант. А што ратаваў юнакоў і дзяўчат, нікога не цікавіла.

Апынуўшыся ў Нямеччыне, Л. Гарошка наладжваў беларускае богаслужэнне ў Берліне і Мюнхене, а восенню 1945 года пачаў выдаваць у Рыме малітоўнік для беларусаў, якія апынуліся, як і ён, за мяжой — "Божым шляхам". Па пераездзе ў гэтым жа годзе ў Парыж заснаваў аднайменны часопіс, займаўся публіцыстычна-асветнай дзейнасцю. Пацвярджэнне таму яго працы, што былі выдадзены. А з асобнымі з іх можна пазнаёміцца ў кнізе, выпушчанай "Мастацкай літаратурай".

З 1960 па 1970 год Л. Гарошка ўзначальваў у Лондане Беларускую каталіцкую місію, атрымаў годнасць архімандрыта, пераехаўшы ў 1970 годзе ў Рым, з'яўляўся кіраўніком беларускай секцыі Ватыканскага радыё. Памёр Л. Гарошка 28 ліпеня 1977 года, калі яму ў парыжскім шпіталі рабілі аперацыю.

Пра чалавека гавораць яго справы. І Л. Гарошка тут не выключэнне, але, паколькі ён займаўся і публіцыстычнай, асветніцкай дзейнасцю, пра яго гавораць і яго творы. Найбольш значная з іх — праца "Святая Ефрасіння-Прадслава, патронка Беларусі", якая і дала назву кнізе.

Сёння пра Ефрасінню Полацкую мы ведаем шмат. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы нарысу У. Арлова, выпушчанаму ў серыі "Нашы славутыя землякі", якую выдавала колішняе выдавецтва "Навука і тэхніка", а цяпер узялося працягваць недзяржаўнае — "Тэхналогія".

Л. Гарошка для свайго часу з'яўляўся першапраходцам у асваенні гэтай тэмы, пра што, між іншым, згадвае ў прадмове і У. Арлоў: "...кніга "Св. Ефрасіння-Прадслава Полацкая, патронка Беларусі" (так называлася яна ў сваім першым выданні. — **А. М.**), па сутнасці, першае ў гісторыі грунтоўнае даследаванне жыцця і духоўнага ўзыходжання нашай выдатнай асветніцы".

Маючы на ўвазе, як шмат можа даць чытачу, нацыянальна неабыякаваму, знаёмства з гэтай выдатнай жанчынай, сам Л. Гарошка ва ўступе да сваёй працы сведчыў: "Каму як каму, а беларусам у першую чаргу варта ведаць дакладней жыццё і дзейнасць аднае з найбольшых дачок свайго народа,.. веліч і святасць якое мелі калісь і заўсёды будуць мець дабрадзейны ўплыў на народ, патронкаю якога яна з'яўлялася" (у кнізе захаваны асаблівасці лексікі і стылю Л. Гарошкі. — **А. М.**). І працягваў: "На жаль, да гэтага часу ў нашай рэлігійнай літаратуры, калі не рахаваць дробных зацемак у падручніках і часопісах, дык сапраўды не было ніводнае кніжкі з яе жыццяпісам. Запоўніць тую нястачу і ёсць мэта гэтае кніжкі".

І Л. Гарошка запоўніў "гэтую нястачу". Пры тым запоўніў належным чынам, хоць і сутыкнуўся з цяжкасцямі: "Аднак сучасныя паваенныя абставіны не дазволілі аўтару выкарыстаць упоўні ўсіх навуковых крыніцаў для поўнага апрацавання намечанага жыццяпісу, а з другога боку, нават сабраны матэрыял не мог быць упоўні выкарыстаны дзеля чыста матэрыяльных цяжкасцяў, каб навуковым апаратам занадта не павялічваць аб'ём кніжкі".

Нарыс пра Ефрасінню Полацкую займае ў кнізе добрую палову аб'ёму. І нават тым, хто добра знаёмы з жыццём і дзейнасцю слаўнай беларускай асветніцы, не лішне з ім пазнаёміцца. І не толькі таму, што кожны аўтар дадае ў прадмет гаворкі нешта сваё, новае. Важна, што ёсць магчымасць адчуць глыбокую эрудзіраванасць Л. Гарошкі. Чалавек, які знаходзіўся далёка ад радзімы і ў якога пад рукой часта не было патрэбных крыніц, здолеў напісаць твор, у якім развагі навукова абгрунтаваныя і аб'ектыўныя. А ці не гэта сведчанне таленту, яго вялікай і жыццядайнай сілы!

Іншыя працы Л. Гарошкі, змешчаныя ў кнізе, таксама пазначаны зацікаўленым позіркам аўтара на беларускую даўніну, жаданнем лепш і дакладней высвеціць асобныя яе моманты. Канечне, найчасцей гэта тычыцца рэлігійнай веры народа. Але разам з тым гэта і заглыбленне ў пласты нацыянальнай гісторыі, часта пакрытыя зверху яшчэ дзірваном.

Узяць хоць бы артыкулы "Дахрысціянская вера нашых продкаў", "Пачаткі хрысціянства на Беларусі, "Культ Багародзіцы на Беларусі"! За ўсім гэтым адначасова паўстае і духоўнае жыццё народа, бачыцца яго прага да пазнання свету і высвятлення ўласнага месца ў гэтым свеце.

А прачытаеш "Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі", "Ікона — абраз", "Беларуская форма крыжа" і адразу з прыемнасцю для сябе зазначыш, што Л. Гарошка адначасова з'яўляўся і дасведчаным гісторыкам, здатным у адстойванні ўласных поглядаў, меркаванняў палемізаваць, спрачацца. І няхай гэтая палеміка, як кажуць, безадрасная, сутнасць ад гэтага не мяняецца. Л. Гарошка тактоўна праводзіць уласны пункт меркавання і неяк адразу, непрыкметна пераконвае ў правільнасці яго. Як скажам, у невялікім, надзіва лаканічным артыкуле-абразку "Ікона — абраз", у якім высвятляе розначасць паміж гэтымі двума паняццямі.

Кніга Л. Гарошкі прываблівае і сваёй "апраткай". Пераплёт пад плёнкай, выразнае графічнае выкананне, зробленае мастаком А. Царовым. А яшчэ, пра што нельга не сказаць, дык пра багацце ілюстрацыйнага матэрыялу, які вельмі ўдала дапаўняе тэкст.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## З АРХІВА КАЛЕКЦЫЯНЕРА

# ПА ПАШТОЎЦЫ АДНАВІЦЬ МІНУЛАЕ

Свет старых паштовак... Як многа загадак, таямніц і знаходак чакае тут усякага захопленага чалавека, як многа цікавага і часам нечаканага гатовы паднесці нам старыя паштоўкі! Адкрыеш альбом і адразу пачынаеш адчуваць подых даўніны, час пераносіць цябе ў мінуўшчыну.

Вось паштоўка пра Баранавічы, горад у Беларусі, якому крыху больш за 100 гадоў.

Старая паштоўка раскрые нам некаторыя невядомыя старонкі гісторыі горада пачатку дваццатых гадоў XX стагоддзя.

У верасні дваццатага года часці Чырвонай Арміі пакінулі Баранавічы, і горад апынуўся ў сферы дзеяння польскіх войскаў, а па Рыжскаму мірнаму дагавору ад 18 сакавіка 1921 года — горад Баранавічы адышоў да Польшчы. Каб расказаць ранейшую гісторыю паштоўкі, нам варта перанесціся ў 1908 год. Тады ў Баранавічах быў адкрыты першы ў горадзе праваслаўны храм, пабудаваны на сродкі прыхаджан. У 1915 годзе царква была расшырана шляхам прыбудовы да яе "гістарычных прыдзелаў у памяць месцазнаходжання стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, высокапастаўленых асобаў, бежанцаў і воінаў". Адзіны праваслаўны храм у горадзе заўсёды быў поўны вернікаў. Нешкаму гэта перашкаджала. 19 красавіка 1921 года на першы дзень праваслаўнага Вялікадня пасля вячэрні па невядомых прычынах царква загарэлася. Храм не выратавалі. Ужо раніцай, пасля пажару, у маленькай капліцы пасля богаслужэння праваслаўныя прынялі рашэнне пабудаваць новую драўляную царкву, і тут жа было аб'яўлена аб зборы ахвяраванняў, быў створаны царкоўна-будаўнічы камітэт, выбрана рэвізійная камісія. Пачатак будаўніцтва затрымліваўся з-за таго, што не быў зацверджаны каштарыс будаўніцтва і план царквы. Былі і іншыя, цяпер невядомыя, прычыны, па якіх вернікі вырашылі будаваць каменную царкву. Варшаўскі архітэктар Мікалай Абаломскі выканаў эскіз новага храма, інжынер І. Стакоўскі (дарэчы, католік) добраахвотна пачаў кіраваць будаўніцтвам храма. Ішло яно марудна: не хапала грошай. Зноў было вырашана звярнуцца па дапамогу да веруючых. Вось тады і была выпушчана паштоўка-фатаграфія з адлюстраваннем праектнага плана царквы і надпісам: "Ахвяруйце на пабудову новага храма! Праэкт (менавіта так — праз "э". — Л.К.) каменнай царквы на 750 чалавек у горадзе Баранавічы". Ніжэй надпісаў — адлюстраванне царквы ў трох праекцыях.

Цікавыя і даныя, што прыведзены на адвароце паштоўкі: гэта адрасны штэмпель фотамайстэрні, дзе, відаць, і рабіліся паштоўкі. Адрас на польскай мове: "Фатаграфія (былая Барона) І. Эйгель. Баранавічы, вул. Віленская, № 27".

Тэкст самога пісьма сведчыць, што сапраўды храм будавалі "усёй грамадой". Паштоўка была выслана 18 ліпеня 1921 года "а. Настаяцелю Купоскай царквы. Прашу зрабіць збор на пабудову Баранавіцкай царквы ў дзень 6 жніўня згодна з рэзалюцыяй Яго Праасвяшчэнства і такі прадставіць у благачынне". У пісьме ідзе размова нават аб прадастаўленні справаздач за 1920 год і паўгоддзе 1921-га. Падпісана пісьмо "Благачынны прот. І. Вер..." — подпіс далей неразборлівы. Збор ахвяраванняў на храм 6 жніўня 1921 года, відаць, зрабіць не ўдалося, таму што пісьмо-паштоўка айцом настаяцелем Купоскай царквы было атрымана толькі 8 жніўня 1921 года, пра што і зроблена паметка на паштоўцы.

Амаль чатыры гады праваслаўная абшчына Баранавіч збірала сродкі на будаўніцтва святыні, але храм так і не пабудавалі. Відаць, было на тое многа прычын. А 6 жніўня 1924 года ў Баранавічах пачалося будаўніцтва новага храма, якое было скончана ў 1931 годзе. Аднак пабудаваны храм Пакрова Святой Багародзіцы зусім не падобны на праект царквы, паказаны на паштоўцы 1920 года. З новым будаўніцтвам звязана яшчэ адна нявысветленая гісторыя. Для аснашчэння новага храма было закуплена рознае начынне — тры вагоны. Усё гэта было змешчана на складзе. У ноч на 5 верасня 1926 года склад нехта падпаліў. Польская паліцыя не знайшла віноўнікаў.

Тым і цікавая гэтая паштоўка для гісторыі. Відаць, гэты першапачатковы праект царквы к 1924 году быў перароблены. Ці так гэта — на пытанне павінны адказаць гісторыкі і краязнаўцы, вывучыўшы архіўныя дакументы. Калекцыянеры ж захавалі для іх гэтую старую паштоўку — дакумент эпохі 20-х гадоў. Старая паштоўка мае цікавасць і для гісторыка, і для рэстаўратара, архітэктара, музейнага работніка. Выдаваючы паштоўка іншы раз становіцца адзінай і унікальнай крыніцай, па якой можна аднавіць гісторыю старых беларускіх гарадоў.

**Леў КОЛАСАЎ.**

# ПАВАЖАНЫ СЫН ТУВЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

супрацоўнічаць з друкам, пісаць вершы, нарысы, быў вольным слухачом Вышэйшых літаратурна-настаўніцкіх курсаў. З 1925—26 вучэбнага года працуе выкладчыкам, а потым дацэнтам кафедры мовы ў Камуністычным універсітэце працоўных Усходу. Ужо ў 1928 годзе з'явілася яго аповесць аб Індакітаі "У краіне вялікіх рэк". Пэўны час Аляксандр Пальмбах працаваў у Чэлябінскім педінстытуце.

Але найбольш значнае месца ў жыцці і творчасці нашага земляка займала ўсё-такі Тува, куды ён трапіў у 1930 годзе. На той час гэта была незалежная дзяржава, утвораная ў 1921 годзе, якая адчувала вострую патрэбу ў адукаваных спецыялістах, у тым ліку і лінгвістах, бо наспеў час стварыць сваю нацыянальную пісьменнасць. Менавіта за гэтую складаную задачу і ўзяўся Аляксандр Пальмбах, які пачаў працаваць у Тувінскім НДІ мовы, літаратуры і гісторыі. Ён здолеў аб'яднаць вакол сябе тутэйшых маладых вучоных, якія і сталі асновай нацыянальнай філалагічнай навукі, першымі літаратарамі.

Пры непасрэдным удзеле Аляксандра Пальмбаха ўбачылі свет такія асноватворныя працы, як "Граматыка тувінскай мовы", "Асновы тувінскай арфаграфіі". Пакінуў наш зямляк прыкметны след і ў тувінскім мастацкім слове. Менавіта пры яго ўдзеле ў 1931 годзе з'явіўся першы тувінскі мастацкі твор "Апавяданне Самбукай", — вольны пераказ аповесці А. Нухрат "Сцяпны аповяд" з казахскага жыцця.

З Тувой Аляксандр Пальмбах быў звязаны да самых апошніх дзён свайго жыцця. Ён палюбіў гэты прыгожы край, дзе пачынае свой бег Вялікая-Вада (Улуг-Хем) — Енісей, дзе жыве маленькі, але працавіты і свабодалюбівы народ. Таму не дзіўна, што Аляксандр Пальмбах вітаў уваходжанне Тувінскай Народнай Рэспублікі ў склад Расійскай Федэрацыі ў 1944 годзе. На гэты час наш зямляк ужо абараніў кандыдацкую дысертацыю па тувінскай пісьменнасці, заслужана меў тытул "настаўніка першых тувінскіх моваведаў", а галоўнае — вялікую колькасць сяброў і паплечнікаў у Туве.

З жыцця Аляксандр Пальмбах пайшоў заўчасна (з-за выпадковай праступы) у кастрычніку (22) 1963 года. Але памяць пра гэтага адкрытага душой чалавека, прафесара, заслужанага дзеяча літаратуры і мастацтва Тувінскай АССР засталася.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**



**А. ПАЛЬМБАХ працуе з таварышамі, якія добра ведаюць тувінскую мову.**

### ХАТА-МУЗЕЙ У НІКАЛАЕВЕ

**Ніякіх перадумоў для стварэння хаты-музея ў вёсцы Нікалаева Іўеўскага раёна нібыта і не было. Аднак захоплены чалавек — у мінулым настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, а цяпер пенсіянер Уладзімір Побаль вырашыў яго стварыць. Пры падтрымцы мясцовага калгаса звычайная сялянская хата стала музеем. У ім аднаўлены быт беларускага селяніна.**

**Асноўнымі наведвальнікамі хаты-музея сталі мясцовыя жыхары, іх унукі і дзеці, што прыязджаюць у вёску пагасціць, экскурсанты і турысты, якія падарожнічаюць па Нёману.**

**Дарэчы, вёсцы Нікалаева ўжо больш за 350 гадоў, некалі ў ёй было больш за трыста двароў. У Вялікую Айчынную вайну фашысты спалілі яе дашчэнту. Цяпер тут каля сотні двароў, але, па словах саміх жыхароў, яна ажывае. І, можа, зноў ператворыцца ў такое ж мястэчка, як было некалі.**



**НА ЗДЫМКУ: шмат цікавага можа расказаць захавальнік музея Уладзімір ПОБАЛЬ мясцовай дзятве.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

### УШАНАВАННЕ АПОСТАЛА НАВУКІ

Тры падзеі ў адзін дзень адбыліся ў вёсцы Мядзвядка Карэліцкага раёна. Пры вялікай прысутнасці мясцовых жыхароў і прыезджых гасцей тут адкрыты мемарыяльны знак у гонар знакамітага земляка. У цэнтры паселішча з'явіўся валун, а прымацаваная на ім таблічка сведчыць: "Мядзвядка — радзіма Дамейкі Ігната Іпалітавіча (31.07.1802—23.01.1889), геолага, натураліста, ганаровага члена польскай АН і многіх іншых еўрапейскіх АН, нацыянальнага героя Чылі".

У сярэдняй школе адкрыты музей Ігната Дамейкі. Яго ж імем нарэшце названа вуліца вёскі, якая вядзе да школы.

На ўрачыстасцях, прысвечаных згаданым падзеям, гучалі ўзнёслыя словы, якія ўслаўлялі чалавека, што нарадзіўся і вырас у Мядзвядцы ды прынёс народам Беларусі і Польшчы сусветную славу. Аб гэтым гаварылі намеснік старшыні райвыканкома Аляксандр Самец, старэйшая жыхарка вёскі Ганна Салтан, начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкома Аляксей Саўчук, кандыдаты навук Генадзь Салтан і Аляксандр Богуш, чэмпіёнка свету па веславанню Тамара Шыманская (апошнія трое — ураджэнцы Мядзвядкі), іншыя прадстаўнікі грамадскасці. Выступленні іх змяняліся цудоўнымі песнямі і вершамі.

Так людзям Карэліччыны вяртаецца імя слыннага земляка, так прапагандуецца яго спадчына. Ёсць надзея, што ў Мядзвядцы да 200-годдзя з дня нараджэння Ігната Дамейкі, а юбілей гэты прыпадае на 2002 год, будзе адкрыты яму помнік.

### ДЛЯ ПАЛЯКАЎ ЛІДЧЫНЫ

Прыемная падзея адбылася ў жыцці лідскіх палякаў: у цэнтры старажытнага горада ўрачыста адкрыты Дом польскі. Узведзены ён будаўнічай фірмай з Кракава пры фінансавай падтрымцы таварыства "Вспульнота польска". На ўрачыстым адкрыцці рэгіянальнага асяродка польскасці выступілі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Ева Спыхальска, старшыня Лідскага гарадскога выканкома Уладзімір Малец, старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін, прадстаўнікі грамадскасці. Пасля ўрачыстай цырымоніі ў канферэнц-зале новага будынка адбыўся змястоўны канцэрт польскіх самадзейных калектываў.

У Лідзе колькі гадоў дзейнічаюць дзве грамадскія арганізацыі польскай нацыянальнай меншасці — аддзяленне Саюза палякаў Беларусі і Таварыства польскай культуры Лідчыны. З адкрыццём згаданага дома перад імі адкрыліся больш спрыяльныя ўмовы для плённай работы.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1366. Падпісана да друку 29.9.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.